# Бацькаўшчына



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 45-46 (431-432) Нядзеля, 30 лістапада 1958 ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# У 38-ую ГАДАВІНУ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

## Слуцкі Чын з пэрспэктывы часу

«Свабоду ніхто не дае, яе трэба браць!» Да такога выснаву прыйшла беларуская дэлегацыя, якая ў 1917 годзе вяла перамовы з расейскім Часовым урадам у Пецярбургу аб прызнаньні Беларусі права на нацыянальнае самавызначэньне.

Так, за выняткам рэдкіх выпадкаў апошняга пэрыяду, гісторыя ня ведае прыкладу, дзе-б нацыянальная свабода й незалежнасьць давалася пануючай нацыяй паняволенаму народу толькі на адно жаданьне апошняга. Самога жаданьня звычайна не хапала. Яно павінна было быць і было задакумантаванае крывёй, якая, у бальшыні выпадкаў, і вырашала праблему, хоць і не заўсёды справядліва.

Так было раней. Гэта можна апраўдваць своеасаблівасьцяй палітычнай маралі таго часу. Што-ж у гэтых дачыненьнях зьмянілася ў нашым «цывілізаваным» XX стагодзьдзі, калі навет для абароны сабакі ствараюцца адпаведныя асацыяцыі! Правы й свабоды ня толькі чалавека, але й цэлых нацыяў і далей топчуцца брутальнай сілай. Праўда, ўжо ня ўсюды. Ужо ёсьць народы, якія абвешчаныя й агульнапрызнаныя прынцыпы асабістай і нацыянальнай свабоды робяць складовай часткай сваёй палітыкі. Аднак у нашыя-ж дні, у калысцы гэтых прынцыпаў — Эўропе, усё яшчэ пашыраюць сваё ўладарства сілы, для якіх жаданьне свабоды, навет задакумантаванае крывёй, не азначае ніякай вартасьці. Гэтая праўда выявілася ўпяршыню не ў змаганьні работнікаў усходняга Бэрліну з савецкімі танкамі, і ня ў крывавым здушэньні гэтымі-ж танкамі вугорскай нацыянальнай рэвалюцыі. Не тады, калі аб гэтай жудаснай праўдзе **ўпяршыню** і з абурэньнем загаварыў увесь некамуністычны сьвет. Гэтая праўда выявілася шмат раней. А калі вольны сьвет аб барбарствах расейска-бальшавіцкага твору пераканаўся толькі сяньня, калі ён непасярэдня загрожаны сам, — у гэтым віна ня нашая. У меру сваіх магчымасьцяў беларуская нацыянальная эміграцыя ў вольным сьвеце не галаслоўна, але на канкрэтных трагічных фактах зь гісторыі свайго народу перасьцерагала сьвет перад загрозай маскоўскага камунізму. Мы адзначалі й адзначаем нашыя нацыянальныя сьвяты й угодкі трагічнасьці нашых продкаў і сучасьнікаў ня толькі таму, што гэтыя сьвяты маюць вялікае значаньне ў гісторыі Беларусі, але й таму, каб на прыкладзе Беларусі вольны сьвет мог зрабіць для сябе адпаведныя высновы.

☆

У пэрыяд першай сусьветнай вайны, пасьля стагодзьдзя жорсткай акупацыі, у складаных і цяжкіх ваенных і палітычных абставінах, ува ўмовах фронту й зьменнай акупацыі, беларускі народ змог адрадзіць, сьпеліць і завяршыць ідэю сваёй дзяржаўнасьці й незалежнасьці. Яна была выражаная Актам 25 Сакавіка 1918 году, які абвесьціў незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі у форме самай дэмакратычнай дзяржавы заходняга тыпу. Беларускі народ, як і кажны іншы, меў на гэта ня толькі права, але й абавязак, які кансэнквэнтна выплываў зь ягонай гістарычнай традыцыі. Аднак традыцыйныя патаптальнікі свабоды, пераапрануўшыся ў іншы колер, пагадзіцца з гэтым не захацелі. І вось тут, а не ў Бэрліне ці ў Вугоршчыне, яны ўпяршыню выявілі сваё запраўднае аблічча ворагаў свабоды чалавека й нацыяў. Тут, на нашых землях, а не ў іншым месцы, народы далі першых герояў-змагароў супраць новай бальшавіцкай тыраніі. У выпадку Беларусі гэтымі героямі былі не адзінкі, ня «клясавыя ворагі», але масы працоўнага народу.

У лістападзе сёлета прыпадаюць 38 угодкі Слуцкага паўстаньня. Угодкі гэтае падзеі ўвайшлі ў гісторыю Беларусі, як Дзень Герояў. Аднак гэта ня значыць, што Слуцкае паўстаньне было адзіным геройчным актам змаганьня беларускага народу за свае людзкія й нацыянальныя правы супраць чужацкае няволі, а ў дадзеным выпадку — супраць бальшавіцкае. У Беларусі ўспыхала ў той час каля двух дзясяткаў большых і меншых паўстаньняў. Вось некаторыя зь іх: Вяліскае, Парэцкае, Барысаўскае, Мірскае, Іванецкае, Койданаўскае. Мсьціслаўскае, Рагачоўскае, Панькоўскабудзкае, Бешанкоўскае, Гомельскае, і шмат іншых. Як і Слуцкае паўстаньне, усе яны былі здушаныя ў няроўным і геройчным змаганьні з бальшавікамі. Аднак Слуцкае паўстаньне выдзяляецца з паміж іншых сваёй выразнай мэтанакіраванасьцяй, яно паказвае ступень нацыянальнай сьведамасьці народу, аўтарытэт сярод насельніцтва тагачасных дзяржаўных органаў БНР, недавер і варожасьць да бальшавікоў. За кароткі час, на заклік цэнтральных і мясцовых органаў Беларускай Народнай Рэспублікі, дзесяць тысяч сялян і работнікаў Случчыны, якая часова апынулася без акупанта, пакінулі плугі й станкі й «пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Іх ніхто ня прымушаў, ніхто не мабілізаваў, — яны пайшлі самі. Пайшлі бараніць Беларускую Народную Рэспубліку супраць тых, хто на словах абяцаў «зямлю сялянам, хвабрыкі работнікам...» Здаровы сялянскі інстынкт наперад вычуў тое, што хаваецца пад гэтымі лёзунгамі — тое, чаго некаторыя дыплямаваныя палітыкі не маглі яшчэ ўцяміць дзясяткі гадоў пасьля факту.

27 лістапада 1920 году Слуцкая брыгада атрымала першы баёвы хрост. На стокілёмэтровым адрэзку фронту на працягу месяца із зьменнымі посьпехамі Случчакі мужна змагаліся з 16-й савецкай арміяй. Чырвонаармейцы пачалі пераходзіць на бок паўстанцаў. Толькі гэтак званыя «інтэрнацыянальныя аддзелы», якія складаліся пераважна зь Кітайцаў, змаглі забясьпечыць бальшавіком посьпех. Паўстанцы былі змушаныя адступіць на савецка-польскую дэмаркацыйную лінію, праведзеную Рыскім трактатам, паводля якога бальшавікі з Палякамі падзялілі між сабою жывое цела Беларусі. Тут яны былі раззброеныя й інтэрнаваныя Палякамі. Геройскі шлях Случчакоў кончыўся — адных сьцёкшы крывёй на полі бою, іншых за польскімі дратамі. Аднак памяць аб іх вечна будзе жыць ня толькі ў Беларусі, але ўсюды там, дзе праходзіць халодная й гарачая вайна з тым ворагам, якога яны выкрылі першыя й зь якім першыя ўступілі ў бой.

**Ю. Д.**

## Змагарныя дарогі

«За волю ў бой жыцьцё заве,
Завуць змагарныя дарогі!..»

(зь песьняў Краёвай Абароны)

Слуцкае паўстаньне! Якая вялізарная падзея й як мала, нажаль, мы яшчэ ўглядаемся ў яе, як вузка, абмежавана яе прыймаем. Ці не ў натуры Беларуса, дзе любоў да бацькаўшчыны, гатоўнасьць заўсёды яе мужна, сьмела, аддана й station... 

Слуцкае паўстаньне! Якая вялізарная падзея й як мала, нажаль, мы яшчэ ўглядаемся ў яе, як вузка, абмежавана яе прыймаем. Ці не ў натуры Беларуса, дзе любоў да бацькаўшчыны, гатоўнасьць заўсёды яе мужна, сьмела, аддана й станоўка бараніць складаў адну з асноўных рысаў, — трэба шукаць вытокаў геройчнай барацьбы слуцкіх паўстанцаў? Ці не зьяўляецца Слуцкае паўстаньне тым адбіткам і выразам, які пераканальна сьветчыць аб геройчным духу, што ўласцівы нацыі й што звычайна хаваецца за сьціпласьцяй, скромнасьцяй, навет пакорнасьцяй вонкавага выгляду беларускага характару? Ці не адзін з вынікаў гэтага духу ёсьць і паўстаньне на Случчыне? Так. Толькі так, а ня йнакш! У той-жа час нам ніколі ня трэба забывацца на тое, што Слуцкае паўстаньне ня толькі тэрытарыяльная й дадзенай пары часу праява нацыянальнага змаганьня. Апошняя не стаіць асобна, ці ў баку, — яна, у гэтым няма ніякага сумлеву, арганічна павязана з агульнай гісторыяй вызвольнай барацьбы беларускага народу ў мінулым. Бойкі з татарамі, вайна з Масквою, зацятыя й няспынныя паўстаньні супраць Польшчы й Масквы на працягу колькіх стагодзьдзяў пад рознымі назовамі, імёны правадыроў Нябабы, Крывашапкі, Гаркушы, Галоты, Вашчылы й шмат іншых, слаўная эпапэя К. Каліноўскага, — усё гэта гістарычныя папярэднікі Слуцкай вялікай справы. Усё гэта змагарныя шляхі й дарогі.

Кажны год мы адзначаем дату Слуцкага паўстаньня, кажны год з горычай і болем прачытваем даўгі сьпіс слуцкіх ахвяраў; цішай, схіленьнем галоваў, жалобным напевам успамінаем Загінуўшых Герояў. Але, ці не ператвараем мы часам дату Слуцкага змаганьня ў музэйную балонку гісторыі, ці не забываемся на тое, што яно зьяўляецца й цяпер вялікай патэнцыяльнай выбуховай сілай народу, ды што яно глядзіць і крочыць непасрэдна ў будучыню, і можа зусім недалёкую будучыню? Ёсьць небясьпека й таго, што ціша, схіленьне галавы й жалобныя напевы могуць застацца толькі выразам горкіх, сумных хварбаў пры абыходзе Слуцкага паўстаньня, надаваць тут пасыўныя, мэмарыяльныя настроі. Ня можна, звычайна, адмовіць і апошняга, але было-б няправільным, навет шкодным, ня вылучыць і не падчыркнуць, што Слуцкае паўстаньне ня толькі памятка, падзея, але й паказальны прыклад далейшага змаганьня, працяг гісторыі нацыянальна-вызвольнага беларускага руху, глеба для новых шляхоў і дарог. Слуцкае паўстаньне — палымяны сьцяг гэтага руху, што амыты сьвятою крывёю Слуцкіх Герояў, і толькі зь ім, з гэтым сьцягам, на гэтай плоднай глебе можа вырасьці й расьцьвісьці перамога народу, чаканая вякамі.

Слуцкае паўстаньне было ўзьнята супраць савецкай, бальшавіцкай улады, якая лічыць сябе народнай уладай, уладай рабочых, сялянаў. І гэта вельмі характэрна. Сярод случчакоў-паўстанцаў, як і сярод змагароў гістарычнага мінулага, знаходзіліся людзі рознага сацыяльнага становішча: сяляне, рабочыя, інтэлігенцыя, навет — прадстаўнікі шляхэцкіх радоў, але праславутай «клясавай барацьбы» паміж імі ня было. Перад вялікай і высокай нацыянальнай ідэяй і мэтай усе лічылі сябе роўнымі, кроўнымі братамі, выступалі, ішлі, заклікалі, змагаліся адзіным патокам. І нездарма бальшавікі гэтак баяцца гэтага адзінага нацыянальнага патоку, імкнуцца вычыркнуць і вынішчыць яго з нацыянальнай сьведамасьці народу, супрацьстаўляючы яму сваю ілжывую тэорыю пралетарскага інтэрнацыяналізму, клясавай ненавісьці, тэорыю йснаваньня ў кажнай нацыі двух культур (пралетарскай і буржуазнай). Слуцкае паўстаньне, як і ўвесь нацыянальна-вызвольны рух, пераканальна сьветчыць, што галоўнай і істотнай праблемай паняволеных народаў ёсьць праблема нацыянальная, яе правільнае разьвязаньне. Што-ж датычыць праблемы сацыяльнае, дык яе палагодзіць свабодны народ без «дапамогі» бальшавікоў і клясавай ненавіснай «тэорыі».

Хацелася-б тут яшчэ парушыць адно, на маю думку, важнае пытаньне, якое здавалася-б на першы пагляд пабочным у тэме, павязанай із Слуцкім паўстаньнем. Я кажу аб яшчэ аднэй характэрнай беларускай народнай рысе — паэтычнасьці, рамантычнасьці, якія асабліва маляўніча знайшлі сваё адлюстраваньне ў народнай творчасьці Беларусаў. Духам героікі, аб якім тут гаварылася ў пачатку артыкулу, прасякнуты многія беларускія народныя паданьні, казкі, песьні, прыгаворкі. Паэтычна, з рамантычнай ахварбоўкай падаюць народныя складальнікі вобразы Беларуса, ягоныя думкі й мары аб роднай староначчы, на якую ён ня хоча й ня можа «прызабыцця ані ўначы сплючы, ані ўдзень хо-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

## Аб сьвяткаваньнях гадавін Слуцкага Паўстаньня

Сярод беларускай палітычнай эміграцыі, што расьцярушана па цэлым вольным сьвеце, увайшло ў традыцыю урачыста адзначаць штогоду Вялікі 25 Сакавік і 27 лістапад. Больш урачыста адзначаюцца гэтыя гістарычныя даты ў найбольшых групах расьсяленьня беларускай палітычнай эміграцыі, а менавіта: ЗША, Канадзе, Англіі, Аўстраліі, Нямеччыне, Аргэнтыне й г. д.

Аднойчы стары беларускі эмігрант зь перад першае сьветавое вайны ў ЗША папытаў мяне: «Чаму вы (гэта значыць новыя палітычныя эмігранты) урачыста адзначаеце ўгодкі Слуцкага Паўстаньня, якое ў выніку было сумным фактам для Случчакоў і ўсяго беларускага народу. Звычайна адзначаюцца ўрачыста тыя гістарычныя падзеі, якія прыносяць народу перамогу й відавочную карысьць». Каб адказаць на гэтае пытаньне, што на першы пагляд выдаецца слушным, трэба падыйсьці да яго не як да адарванага факту, а як выніку цэлага камплексу вызвольных падзеяў Беларускага Народу, які мае натуральнае права й хоча, як іншыя вольныя народы, быць таксама вольным і незалежным народам, каб разьвіваць сваю собскую культуру.

Кажны народ, а ў тым ліку й беларускі, мае свае антрапалягічныя й духовыя асаблівасьці, што ўтварыліся ў працягу даўгога жыцьця на роднай зямлі. Гэтыя асаблівасьці перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне праз спадчынасьць і твораць фактары апрычонасьці яго ад другіх народаў ды зьяўляюцца арганічным лучнікам беларускай супольнасьці. Яны (асаблівасьці) ніколі ня зьнікаюць.

Імпэрыялістычна-каляніяльныя імкненьні ўсходняга суседа былі прычынаю падбою нашага краю й далучэньня яго да Маскоўшчыны. Больш ста гадоў гэты «старэйшы брат» імкнуўся вырваць з душы й цела Беларуса яго спадчынныя асаблівасьці рознымі гамуючымі спосабамі ўключна да афіцыяльнае забароны беларускага друку, а цяпер — рознымі фікцыямі, як напрыклад, беларускімі шыльдамі звонку на ўрадавых установах, але з расейскім зьместам унутры іх. У такі азіяцка-жорсткі гнёт Беларускі Народ не загамаваў сваіх спадчынных адзнакаў, якія пры паслабленьнях гнёту пачыналі рунець і разьвівацца. Жывучае й непераможнае імкненьне Беларускага Народу да волі, навет пры няспрыяльных умовах, паступова пашыралася ад ідэі бацькі нацыянальнага адраджэньня Ф. Багушэвіча, героя збройнага змаганьня К. Каліноўскага, непераможных духовых дывізіяў Я. Купалы й Я. Коласа аж да Вялікага 25 Сакавіка. Слуцкае Паўстаньне арганічна зьвязана з вышэйпаданымі фактамі нацыянальнага адраджэньня й зьяўляецца іх вынікам зь геройскім чынам абароны Вялікага 25 Сакавіка. Бязьмерна адданыя вольнай і незалежнай Беларусі Случчакі былі пераможаныя адвечным калянізатарам, але яны вайны не прайгралі. Яна вядзецца да сяньняшняга дня й пралітая імі беларуская кроў, што прасачыла родную зямлю, біялягічна вяжа наступныя пакаленьні ўсяе этнаграфічнае Беларусі.

Палітычная беларуская эміграцыя мае поўную магчымасьць разьвіваць сваю слаўную культуру, што цьвіла пры Др. Скарыне, першым беларускім друкары, што меў агромны ўплыў на ўсё ўсходняе славянства. У вольным сьвеце беларуская палітычная эміграцыя выдае свае часапісы, кніжкі, арганізуе свае аўтакефальныя прыходы, школы ды вядзе навуковую працу ў сям'і дэмакратычных народаў Захаду. Гэтая-ж палітычная эміграцыя мае права бяз усякіх дазволаў і кантролю ладзіць свае нацыянальныя імпрэзы ды ўрачыста адзначаць гістарычныя даты, што сурова забаронена «старэйшым братам» на Бацькаўшчыне.

Рабства й духовы гнёт у родным краю вымагае ад нас у вольным сьвеце разьвіваць тыя здольнасьці, што заложаныя ў нашай спадчыне ды ўзаконеныя натуральным правам. Таму ўрачыстыя сьвяткаваньні нашых гістарычных датаў, а ў тым ліку й угодкаў Слуцкага Паўстаньня, патрэбныя для нас, каб паказаць усяму дэмакратычнаму сьвету, што Беларускі Народ мае боскае й натуральнае права на вольнае й незалежнае жыцьцё й што збройная вайна, распачатая Героямі-Случчакамі з акупантам нашага роднага краю не закончаная. З другога боку героі, што ахвяравалі жыцьцё, ды ўсе замучаныя на ссылках і катаргах барацьбіты за волю й незалежнасьць Беларусі, накладаюць на нас, чаго ня могуць зрабіць нашыя суродзічы ў сваім родным краю, рэлігійна-традыцыйны абавязак памаліцца за іх душы ды прыпомніць іх геройскія чыны, у якіх тлеюць будучыя геройскія дзеі нашых малодшых пакаленьняў, што за прыкладам старэйшых рынуцца ў рашучую ды канчальную бітву — перамогу над злом — зь першаю звароткаю на вуснах нашага нацыянальнага гімну: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

**А. Негнявіцкі**

# Дзе няма ахвяраў - няма й перамогі

**(Да ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня)**

Як у мінулыя гады, гэтак і сёлета ўся беларуская эміграцыя сьвяткуе дзень 27-га лістапада, як Дзень Беларускіх Герояў, што аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі, як дзень памяці Слуцкіх Паўстанцаў, якія паўсталі із зброяй у руках супраць бальшавіцкае навалы з усходу й змагаліся зь ёй ад 27-га лістапада да 31 сьнежня 1920 году. Што ў гэтым дні мы ўспамінаем перадусім Слуцкіх паўстанцаў — зусім зразумела. Слуцкае Паўстаньне, мэтаю якога была абарона незалежнасьці маладое Беларускае Народнае Рэспублікі, паводля свайго патрыятычнага ўздыму й ахвярнасьці, цалкам на гэткую ўвагу заслугоўвае. Да таго-ж адбылося яно нядаўна, яшчэ за памяці, а навет пры ўдзеле нашага сучаснага старэйшага пакаленьня, для якога, як і для усіх — яно ёсьць сымбалем ахвярнага змаганьня за свой край і народ.

На фоне нашай слаўнай мінуўшыны, адылі, Слуцкае Паўстаньне ня было нечым нязвычайным. На працягу вякоў у нас было шмат паўстаньняў, таксама гераічных, таксама ахвярных, калі нашыя прадзеды збройна паўставалі супроць захопнікаў з захаду і ўсходу. Найбольш было ў нас паўстаньняў супраць Маскоўшчыны. Пачаліся яны яшчэ ў першай палове 15-га стагодзьдзя, калі князь маскоўскі Іван Трэйці пачаў нападаць на беларускія землі, адрываючы іх ад нашае тагачаснае дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага й далучаючы да Маскоўшчыны. Ужо ў гэныя далёкія часы, калі рэгулярныя войскі нашых прадзедаў былі прымушаныя адыйсьці перад збройнаю моцаю ворага, — на захопленай маскоўцамі прасторы беларускія масы спантанічна паўставалі супраць іх- паўставалі ня раз і вельмі часта так наважна, што выганялі за межы захопнікаў.

З нагоды 38-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня я й спробую гэта расказаць аб гэткіх беларускіх паўстаньнях, якія адбыліся на працягу вайны Беларусі з Маскоўшчынай за часоў маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча ў гадох 1654—1667.

Згаданая вайна была цесна зьвязаная з казацкімі войнамі супраць Польшчы, якія вяліся пад правадырствам Багдана Хмяльніцкага. Багдан Хмяльніцкі, пачуваючы сябе заслабым весьці вайну з Польшчай, падаўся пад апеку маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча. 8-га студзеня 1654 году ў месьце Пераяслаўлі адбыліся перамовы між Масквою й Багданам Хмяльніцкім, дзе й было пастаўлена, што Ўкраіна аддасцца пад апеку цара Аляксея Міхайлавіча. Пастанова была замацаваная прысягаю Хмяльніцкага й ягоных вайсковых старшыняў. Украіна належала ў гэным часе да Польшчы, якая ня прызнала Пераяслаўскае ўгоды; таму Масква мусіла ўзяцца за зброю, каб адваяваць ад Польшчы адданыя ёй у апеку Багданам Хмяльніцкім землі. Беларусь, як ведама, была тады незалежнай дзяржавай пад назваю Вялікага Княства Літоўскага, сфэдэраванага на аснове пастановаў Люблінскага Сойму ў 1569 годзе ў вадну з Польшчай Рэчпаспалітую. Таму, пачынаючы з Польшчай вайну за Украіну, Масква не магла пакінуць Беларусь у супакоі. Яна пачала рыхтавацца да вайны з Рэчпаспалітай Польска-Літоўскай адразу-ж пасьля Пераяслаўскае ўгоды. Падрыхтоўка гэтая была праведзеная вельмі старанна і ў хуткім часе. Апрача падрыхтоўкі чыста вайсковай, Масква зьвярнула вялікую ўвагу й на падрыхтоўку з боку прапагандная. Гэтак, цар Аляксей Міхайлавіч ішоў на Беларусь пад лёзунгам вызваленьня праваслаўнага жыхарства Літвы ад «каталіцкага ціску». Загадзя, яшчэ перад пачаткам вайсковых дзеяньняў, з Масквы былі пасланыя на Беларусь адмысловыя прапагандыстыя з адозвамі ад цара да праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім, дзе цар пісаў, што ня можа абыякава ставіцца да сваіх адзінавернікаў, якія перасьледуюцца каталікамі, і ўважае сваім сьвятым абавязкам вызваліць іх ад гэтага перасьледу.

Адну з сваіх арміяў, пад камандаю князя Трубецкога, цар Аляксей Міхайлавіч паслаў 26-га сакавіка 1654 году на Ўкраіну, на дапамогу Багдану Хмяльніцкаму. Другая армія пад камандаю самога цара ў складзе 200 тысяч жаўнераў накіравалася 18-га траўня на Беларусь. Дзеля падмацаваньня арміі Аляксея Міхайлавіча, паслаў на Беларусь 20 тысяч казакоў пад камандаю атамана Залатарэнкі і Багдан Хмяльніцкі.

Паход дзьвухсоттысячнага маскоўскага войска на Беларусь ня мог ня мець удачы. Гэтая навала аднэю сваёю масаю раздушвала ўсё, што ставіла ёй супраціў. 4-га чырвеня быў здабыты Дарагабуж, 11-га Невель, 14-га Белы, 28-га пачалася асада Смаленску, 29-га чырвеня быў здабыты Полацак, 2-га ліпеня паў Раслаўль, 20-га Мсьціслаў, 24-га Дзісна і Друя. Вялікі гэтман Літвы Януш Радзівіл зь дзесяцёхтысячным беларускім войскам спрабаваў заступіць дарогу маскоўскай арміі пад Воршаю, разьбіў перадавую калёну ворага, але пад ціскам у дваццаць разоў дужэйшага ворага, мусіў адыйсьці й 2-га жніўня Ворша была занятая Маскоўцамі. Маскоўская армія борзда пасоўвалася наперад. 9-га жніўня 1654 году было здабытае Глыбокае, па ім — Азершчына. Пасьля зацятае абароны быў здабыты Маскоўцамі Барысаў. 24-га жніўня атаман Залатарэнка заняў Гомель і за парадай ігумена Варшанскага манастыру Турцэвіча, ворагу бяз бою паддаўся Магілёў. 1-га верасьня, пасьля гераічнае абароны, быў здабыты Шклоў, а шклоўскае жыхарства, за кару ўсё-чыста, старыя й малыя, перабітае. Смаленск, пад камандаю ваяводы Абуховіча бараніўся зь нязвычайнаю адвагаю даўжэйшы час. Толькі калі былі ўжо здабытыя ворагам Шклоў, Ворша, Магілёў, Барысаў ды іншыя месты, ваявода Абуховіч, згубіўшы надзею на якую-колечы дапамогу звонку, здаўся 23-га верасьня, пры ўмове, што абсада й жыхарства Смаленску ня будуць перабітыя, што, як правіла, рабілі Маскоўцы ў займаных імі беларускіх местах. Аднак, сам ваявода Абуховіч быў цяжка дасьветчаны; яго прымусілі пакласьці ягоны вайсковы сьцяг пад ногі цару й тройчы сьхіліцца перад ім да зямлі. Вялікую гераічнасьць й ахвярнасьць выявіла места Віцебск. Маскоўцы здабылі яго адно 22-га лістапада пасьля вельмі цяжкога змаганьня. За гэтую адвагу й стойкасьць усе жыхары Віцебску былі перабітыя. Здабыцьцём Віцебску кампанія 1654 году была скончаная. Беларусь аж па Бярэзіну апынулася ў маскоўскай няволі.

Ужо неўзабаве выцалелае беларускае жыхарства занятае Масквою прасторы пераканалася, што гэта Масква й што вартыя ейныя абяцанкі. Заміж вызваленьня, якое суліла Беларусам маскоўская прапаганда, на Беларусь звалілася дзікая, бязьлітасная навала. Усе гарады Беларусі мелі тады т. зв. Магдэбурскае права, паводля якога й гарадзкая рада й бургамістры выбіраліся ўсімі жыхарамі гораду. Маскоўцы гэткіх правоў ня прызнавалі. Тыя гарады, якія пры іх упіраліся ці ставілі маскоўскаму войску супраціў, нішчыліся, а жыхарства іхнае выбівалася да нагі. Жыды вынішчаліся скрозь, і ў местах і на вёсцы. Каталіцкія цэрквы зачыняліся, а праваслаўным накідаліся прыбылыя з маскоўскім войскам няпісьменныя й някультурныя сьвятары, хоць тагачасная Беларусь мела сваё, асьвечанае праваслаўнае сьвятарства. Праваслаўныя цэрквы Беларусі разбураліся, абразы, цэлыя іканастасы ды іншая царкоўная маемасьць, што мела мастацкую вартасьць, вывозіліся ў Маскоўшчыну. Неўзабаве «вызвольнікі» пачалі вывозіць у Маскоўшчыну й праваслаўных беларускіх сьвятараў. Бясcарныя масавыя забойствы супакойнага жыхарства, гвалты над жанчынамі ды іншыя нягодныя ўчынкі панявольнікаў прымусілі Беларусаў стацца ненавісьнікамі ўсяго маскоўскага. І ў гарадох ды буйнейшых селішчах пачалі патаёмна тварыцца й расьці вайсковыя гурткі. Беларусь рыхтавалася да змаганьня з захопнікам.

Пасьля няўдалае спробы вялікага гэтмана Радзівіла адабраць ад Маскоўцаў Магілёў і здабыцьця Менску маскоўскім ваяводаю Хварасьцінавым, маскоўскае войска пачало зьбірацца пад Вільняй. Абарона Вільні была даручаная гэтману польнаму Гасеўскаму, які сабраў у Вэрках пад Вільняй вялікае войска, што мела бараніць места. 29-га ліпеня маскоўскае войска пад камандаю князя Чаркаскага сустрэлася з войскам Гасеўскага і пасьля вельмі даўгога й крывавага бою, разьбіла яго. Вільня была занятая варагамі, а 8-га жніўня 1655 году цар Маскоўскі Аляксей Міхайлавіч урачыста ўехаў у старую Літоўскую сталіцу, пачаўшы адгэтуль тытулавацъ сябе: цар усяе Русі, вялікі князь Літоўскі, князь Валынскі й князь Падольскі.

Найдаўжэй заставалася вольным Палесьсе. Маскоўская армія пасоўвалася на Беларусі ўзвышшам, на поўнач ад непраходных палескіх балотаў ды пушчаў. Аднак, пакінуць незабраную гэткую вялізарную прастору Масква не магла. Дзеля апанаваньня Палесься ў Кіеве была зарганізаваная князем Валконскім рэчная флёта, і маскоўскае войска пад ягонаю камандаю даплыло зь Кіева Дняпром да Прыпяці, а пасьля — Прыпяцяй паплыло на захад, займаючы палескія гарады Пінск, Тураў, Стольна, Давыдаў ды іншыя, скрозь рабуючы іх і вынішчаючы жыхарства.

У 1655 годзе здарыліся, адылі, падзеі, якія зусім зьмянілі ход вайны. Швэдзкі кароль Карл Дзясяты выступіў супраць Польшчы вайною й забраў Прусы. Дзеля таго, што Польшча была занятая вайной з Масквою, Карлу было вельмі лёгка займаць польскія абшары. Неўзабаве ён заняў усю Польшчу з Варшаваю й Кракавам. Польскі кароль Ян Казімір быў прымушаны ўцячы на Сьлёнск. Тымчасам, гэтман Януш Радзівіл меў нарады ў Кейданах з Карлам Х-ым. На гэтай нарадзе была сьпісаная ўмова, ў якой, між іншага, былі й гэткія пункты: Вялікае Княства Літоўскае зрывае пастановы Люблінскага Сойму з 1569 году. Швэцыя прызнае Вялікае Княства Літоўскае сувэрэннай дзяржаваю. Вялікае Княства Літоўскае падпісвае вайсковы саюз із Швэцыяй дзеля абароны незалежнасьці абодвух гаспадарстваў. Карл Х-ы забавязваецца памагчы Вялікаму Княству Літоўскаму адабраць ад Маскоўшчыны ўсе заваяваныя ёю беларускія землі. Кейданская ўмова была падпісаная з швэдзкага боку каралём Карлам Х-ым, а з боку Вялікага Княства Літоўскага — Янушам і Багуславам Радзівіламі. Умова гэтая ўстрывожыла й цара Аляксея Міхайлавіча і Палякаў. І гэны і гэтыя пачалі шукаць кантактаў дзеля таго, каб зрабіць міжсобку мір. Мірная нарада паміж упаўнаважанымі цара й Палякаў адбылася ў Нямежы пад Вільняй. Дзеля таго, каб схіліць цара да міру, польскія прадстаўнікі абяцалі выбраць на караля Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага (беларускага) цара Аляксея Міхайлавіча, яшчэ за жыцьця польскага караля Яна Казіміра. Трэйцяга лістапада 1656 году між Масквою й Польшчаю было зробленае замірэньне і цар абвесьціў вайну Швэцыі. Некаторыя маскоўскія гарнізоны, у тым ліку Вільня, былі ўлучаныя ў маскоўскую армію, накіраваную супраць Швэцыі. На чале гэтае арміі стаяў сам цар. Заняўшы колькі гарадоў у Лівоніі, Аляксей Міхайлавіч з 90-тысячным войскам абкружыў Рыгу й пачаў яе здабываць.

У міжчасе на Беларусі пачаліся паўстаньні супраць зьненавіджанае Масквы: Палкоўнік Іван Нячай, які служыў у атамана Залатарэнкі, не сьцярпеўшы зьверстваў свайго атамана ў дачыненьні да беларускага жыхарства, пакінуў Залатарэнку й вярнуўся ў Магілеўшчыну. Стары Быхаў усьцяж яшчэ ня быў здабыты маскоўскім войскам. Нячай выбраў гэтую цьвярдыню на сваю выпадовую базу. Аддзелы паўстанцаў, якіх у Магілеўшчыне было шмат, сьцягваліся Нечаём у Стары Быхаў, пераарганізоўваліся ў рэгулярныя вайсковыя аддзелы і ўжываліся да вельмі спусташальных нападаў на маскоўскае войска. У тым часе пачаліся паўстаньні ў местах Чаўсах, Крычаве, Мсьціслаўлі й шмат дзе яшчэ.

У 1658 годзе ў Варшаве адбыўся Сойм Рэчыпаспалітай. Выбар Аляксея Міхайлавіча за караля Польшчы й Вялікага Князя Літоўскага, прыабяцаны ў часе мірных перамоваў ў Немежаве Палякамі, Сойм гэты станоўка адкінуў. Дзеля гэтага вайсковыя дзеяньні між Масквою й Польшчаю пачаліся нанова. Гэтман Гасеўскі, арыштаваны Янушам Радзівілам за паразу пад Вільняй, быў неўзабаве вызвалены і ў другі раз атрымаў загад бараніць Вільню. 21-га кастрычніка 1658 году маскоўскі князь Даўгарукі неспадзеўкі напаў на Гасеўскага, разьбіў ягонае войска і ўзяў Гасеўскага ў палон. Вільня ўзноў трапіла ў маскоўскую няволю, а князь Даўгарукі ўчыніў жыхарству сталіцы крывавую разьню. Адначасна князь Хаванскі заняў Горадню, Наваградак і абкружыў вароўныя Ляхавічы.

Пасьля таго, як гэтман Гасеўскі трапіў у маскоўскі палон, гэтманства было перададзенае Паўлу Сапегу. Сапега, не чакаючы, пайшоў на чале беларускага войска, падмацаванага польскімі аддзеламі, з Берасьця пад Ляхавічы, Хаванскі-ж спад Ляхавіч ішоў напярэймы Сапегу. Варожыя войскі сутыкнуліся каля вёскі Палонкі. Пасьля даўгое бітвы, князь Хаванскі быў разьбіты. Ранены, ён уцёк і схаваўся із сваймі недабіткамі за мурамі Полацку. Пасьля гэткай бліскучай перамогі над Маскоўцамі, гэтман Сапега прымусіў Маскоўцаў пакінуць Менск. Але, тымчасам, князь маскоўскі Даўгарукі здабыў Стары Быхаў, зацята бароненны паўстанцамі Нечая. Ня толькі яны ды ўсе наагул абароньнікі, але й усё цывільнае жыхарства Старога Быхава было перабітае. Сам Нячай быў адасланы ў Маскву, дзе яго доўга мучылі ў засьценку, а тады закатавалі да сьмерці.

Маючы за заданьне зьнішчыць армію князя Даўгарукага, гэтман Сапега абмінуў добра ўмацаваны Барысаў, і накіраваўся на Магілеў. Гэтаксама абмінуўшы яго, Сапега далей пайшоў на ўсход. У Шклове да арміі Сапегі далучыліся тры тысячы беларускіх паўстанцаў пад камандаю Мурашкі. Падыйшоўшы пад Чаўсы, армія Сапегі затрымалася таба-

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

# Статус кво

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

гэтых краінах — іхняя нутраная справа. Калі ў Заходняй Нямеччыне будзе камуністычная рэвалюцыя — ня наша справа, але калі ўва Усходняй Нямеччыне, Польшчы, Вугоршчыне, Баўгарыі ці іншых здарыцца антыкамуністычны пераварот — таксама ня вашая справа. У іншым выпадку будзе блага. Дык, або так, або гэтак і, давайце, ножкі на стол. . . .»

І вось сяньня ўжо можна закладацца, што Масква на такое dictum acerbum вырачацца і Рапацкага і ягоных плянаў.

Праўду кажа «Манчэстэр Гардыян», што на Захадзе няма акцыі на савецкую дынамічную актыўнасьць. Але калі гэтая акцыя будзе выяўляцца ў чарговых уступствах Маскве і ў пошуках статус кво, дык з часам яна можа прывесьці да таго, што бальшавікі, седзячы на Панамскім канале скажуць або так, або сяк, або падайце на калені, або ідзеце пад сьценку. У кажным выпадку «ножкі на стол! . . .

Спадзяемся, што гэта ня здарыцца. Аднак гісторыя вучыць, што кунктатарства пераважна даводзіла да капітуляцыі . . .

**пс**

---

распрануўся й павесіў на яго кожанку, шапку, потым прайшоў да папоўскага крэсла. Палавіцы скрыпнулі так моцна, што чалавек аж спужаўся гэтага скрыпу. Колькі часу давялося пасядзець у гэтым крэсьле й нават паспаць! Заснуць-бы й цяпер, забыцца пра ўсё.

Мокрут усім скволеным тулавам узьлягае на падлакотнікі, адкідвае галаву на высокую сьпінку. Прыемна было некалі вось гэтак адпачываць, а падчас і гаварыць зь людзьмі.

На двары мільгае ў белых хмарках вельмі ўжо праворны месяц, таму па стале ўвесь час бегаюць кароткія цені. Стракаціць у вачах ад гэтых ценяў, а яшчэ больш стракаціць ад розных паперак, квіткоў і блянкаў, што ў беспарадку валяюцца на стале. У сельсавеце няма цяпер сакратара, а сам Мокрут і раней не клапаціўся аб парадку ў канцылярскіх справах. Цяпер-жа дык і гаварыць няма чаго. Паблісквае перад апушчанымі ўніз вачамі вышмараваны локцямі й далонямі паўкруглы рубец стала. Варта хоць трошкі працягнуць з падлакотніка руку, і ўказальны палец ляжа на гэты рубец. Маленькі рух, і пачуецца звычайны стукат. Колькі людзей з крыўдай і няпрыязьню глядзелі на гэты палец, колькі разоў балюча моршчыліся, слухаючы гэты стукат!

Дрымоты ня прыходзілі, хоць Мокрут ня зьбіраўся хутка ўставаць з гэтага крэсла. У галаве шумела ад страшэннай блытаніны думак, ад безьлічы самых супярэчлівых уражаньняў і ўспамінаў. Бывала, на сэсію за вушы чалавека не прывалачэш, а тут, глядзі, амаль поўная школа людзей. І дэпутаты ўсе да аднаго, і настаўнікі. Сямён Казырок вунь адкуль і то прыйшоў, нават зладна махаў рукой, калі звонкі Дашын голас чуўся ва ўсіх кутках. Успаміналася, што й Аксіньня, Валодзява маці, вельмі-ж ужо старанна слухала Дашынае выступленьне,ківала ў знак згоды галавою, а потым, калі дзяўчына вярталася на сваё мейсца, злавіла яе за рукаў і доўга нешта шаптала на вуха, ласкава ўсьміхалася. А яшчэ зусім нядаўна гэтая жанчына верыла яму, Мокруту.

Пасьля Дашынага выступленьня захацелася зноў узяць слова самому. Слова далі, а слухаць ня слухалі. Стары Платон пачаў у гэты час нешта гаварыць Мітрафану, а той без усялякага ўтрымку сьмяяўся й весела паглядваў на свайго старэйшага сына. Гэты толькі што прыехаў, а ўжо тут. І хто іх зваў на сэсію?

. . . Перад вачыма — людзкія рукі паднятыя над галовамі. Так многа рук. Павал Паўлавіч сказаў падняць рукі толькі дэпутатам, а паднялі ўсе. Цяжка было ўтрымацца, каб ня зірнуць. Андрэіха сядзела воддаль, дык аж устала, каб усе бачылі яе руку.

— Дабрасельскі! — Павал Паўлавіч да Івана. — Палічы галасы!

Той устаў, выцягнуўся на даўжэйшай назе, каб лепш бачыць.

— Аднагалосна! — праз якую хвіліну абвясьціў ён. У голасе — цьвёрдасьць і гучнасьць. Гэтага раней ня было.

— Ды ўсе прагаласавалі! — пацьвердзіў з задніх радоў Ціхоня.

Бач, і ён абазваўся!

Усё гэта асабліва крыўдзіла й злавала Мокрута. Ніколі раней ён не зважаў на якоесьці там галасаваньне. Сам заўсёды падымаў руку без усякіх думак у галаве й на людзкія галасы паглядваў з насьмешкай. А тут прагаласавалі, і ён ужо не старшыня.

Правая рука неяк сама сабою паехала па сьлізкаму падлакотніку ўперад, аднак пальцы не дацягнуліся да стала, каб пастукаць, а квола, нібы самлелыя, упалі на сьцягно. Тут яны, паварушыўшыся, хутка намацалі кішэню, у якой ляжаў круглы футлярчык зь пячаткай. Пад сэрцам у Мокрута зашчымела. Заўтра здаваць гэтую пячатку, а як жыць безь яе? Перад вачамі раптам паўсталі суседзі-дабрасельчане. З самага ранку яны возяць на поле гной, рукі ў іх у гэты час брудньня й няпрыемна пахнуць. Андрэіха ў прыполе носіць дадому маленькіх парасят, тут іх абсушвае, абагравае, поіць малаком. А Даша начуе на фэрме ў час ацёлаў і ў такія дні ходзіць з пачырванелымі ад бяссонніцы вачыма. І ўсё гэта людзі, і шчасьце ўсіх, мабыць, больш, як у яго самога.

Лявон рэзка адштурхнуўся ад сьпінкі крэсла, устаў і нэрвова захадзіў па кабінэце. Хадзіў ён так з паўгадзіны, палавіцы скрыпелі, нібы крышыліся ў яго пад нагамі. Іх даўно ўжо непраціралі вадой. Потым былы старшыня падыйшоў да сваe кожанкі, рвануў яе так, што цьвік сагнуўся, ці вешалка разарвалася, пасьпешна апрануўся й рушыў зь сельсавету. Дзён тры яго ніхто ня бачыў і ніхто ня ведаў, дзе ён каратаў ці прасьвістваў свой час. На чацьвёрты дзень позна ўвечары Мокрут зьявіўся на дабрасельскай вуліцы. Ніхто ў гэты час яго не заўважыў: дзетвара ўжо спала, а ўсе дарослыя былі на калгасным сходзе. Ішоў Мокрут, не сьпяшаючыся, і глядзеў увесь час толькі сабе пад ногі. Ён і рад быў, што ніхто не трапляўся яму насустрач.

Каля свайго двара спыніўся, падняў галаву. Мяккі вецер з поўдня абдаў яго шыю й трохі зьменшаны за гэтыя дні вальлячок. Лявон зноў утуліўся ў каўнер, вецер здаўся яму вельмі халодным. У вокнах хаты відно было сьвятло. Гэта спадабалася Мокруту, што ня трэба было стукаць, дабуджвацца жонкі.

Асьцярожна, без скрыпу адчыніў брамку, зайшоў у сьлізкі ад адлігі двор. Дзьверы ў сенцы таксама адчыніў паціху, пераставіў нагу цераз парог хаты й больш ня мог ступіць ні кроку. З ложка, накрытая суконнай паласатай коўдрай, дакорліва й усё-ж такі з радасьцю глядзела на яго жонка, а побач, на зэдліку, сядзела Андрэіха й спавівала ў цёплыя пялёнкі дзіця.

Лявон зьняў шапку й моўчкі стаў камячыць яе ў руках. Затым ён марудна павярнуўся й выйшаў. З двара не падаўся нікуды, а сеў пад акном на прызьбе й ахапіў галаву рукамі. З страхі капалі буйныя, вялікія каплі й гучна стукаліся аб кожанку. Са сходу па вуліцы йшлі людзі, яны весела гаманілі, сьмяяліся.

— Два старшыні ў хаце! — з націскам сказаў нехта.

— А я магу даць яшчэ й трэцяга, калі трэба!

Гэта, вядома, голас Мітрафана.

Насупраць двара нехта прыпыніўся.

— Няўжо яго яшчэ няма? — пачуўся гаманок. — Хіба-ж ня ведае чалавек? Гэта-ж добра, што Андрэіха, а то-б . . .

Лявон ня мог глянуць навуліцу, ня мог расслабіць пальцы, ублытаныя ў адрослыя за апошні час валасы. Бразнула неўзабаве клямка ў сенцах, і каля яго мімаходам спынілася Андрэіха.

— Ідзеце, сусед, у хату, — патрабавальна сказала яна. — Сын заве.

**к а н е ц**

# Літаратурны Дадатак

*Натальля Арсеньнева*

## КОСЫ

*Беларускай маці*

У калысцы Паўловае ўсё пачалося:
два гады яна хатай хлапцу была.
За калыскай,
за хатай
сьпявалі восі,
жаўрукі і дзяўчаты,
на ўскраі сяла,
ледзь пастукае вецер у шыбы пальцам,
балбатаў і рукавамі трос вятрак,
ды гулялі ў вайну із галёканьнем мальцы,
да жыцьця накладаючыся няўзнак...
За калыскай,
за хатай
былі дарогі,
ногі босыя й срыбны, як росы, пыл,
і далёкіх бароў бураватыя рогі,
і на пожнях нябёс —
балачын снапы...
Ды ўсё гэта — пасьлей...
Ссаў малы сысолку
і лавіў пясткай сонца плыўкі агонь...
Аж аднойчы,
як маці зьмяняла полку,
кос паводка лынула малому ў твар.
А была яна гэткая залатая,
столькі чыстага зьяньня у ёй было,
што здалося хлапцу, быццам тае,
тае
ён
ад пятаў маленькіх па ўпарты лоб.
І, няўмеючы шчасьцю знайсьці адтулін,
учапіўшыся пальцамі ў шоўк сыпкі,
ён заплакаў так дзіка,
што шызыя гулі
узьняліся стралой з падваконьня
ў блакіт.
Гэтак сталіся матчыны косы цацкай
улюбёнай, найлепшай у Паўлюка.
Навучыўся ён хустку скідаць зьнянацку,
налажыўся зіхлівыя пасмы сукаць,
А калі шанцавала,
што й сонца у косы
заплялося,
нячасты у хаце госьць —
ну й даваў ён і косам,
і сонцу чосу!
Песьціў, торгаў, ірваў — і сьмяяўся чагось...

- - - - - - - - - - - - - - - - -

Ужо лётаў Паўлюк із аладкай пшоннай
у руцэ,
частаваў ёю куры, ката,
прабаваў на калматым Мурзу конна
гарцаваць,
лапатаць навет штосьці стаў, —
як прыйшлі бацьку браць у салдаты.
Горка
маці плакала й плакаў Паўлюк за ёй,
за плячо, хтось вусаты, ўсе бацьку торкаў,
каб хутчэй,
а ён — хустку вязаў зь зямлёй...
Паляцелі тады із далеч нязнаных
галубамі лісты,
аж іх кон і змог:
у густы гаалян, за фанзой глінянай,
як казалі,
бацька навечна зьлёг...
Ноч кароткай была ўжо, відаць,
а можа
так чамусьці здалося адно хлапцу,
бо сьпявала да золку так неяк прыгожа
яму маці,
што рады ня даў заснуць:
—«Люлі, люлі, мой сынок,
люлі, люлі, галубок,
ходзіць ночка па дворы,
лічыць зоры у гары,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а. люлі,
Сьпі, сіротка, заўтра зноў
зловім, сонцава чаўно,
паплывем зь ім на загон,
дзе ўзрунеў зялёны лён,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі.
Будзе там палоць лянок
з мамкай бедны мой сынок,
люлі-ж, люлі, любы, спаць,
а я буду падпяваць,
а-а-а, а-а-а, люлі,
а-а-а, а-а-а, люлі.»
А тады —
маці скінула хустку
і сьцені
над Паўлом заліла зьзянь нялюдзкая кос.
Найзырчэйшае пасма злавіў ён у жменю
і у сны, сьмяючыся,
з сабой панёс.

- - - - - - - - - - - - - - - - -

Як упрэжаныя ў малатарню коні,
ўсьцяж у кола йшлі,
ў кола,
у кола
гады...
Шчырбы й раны зямлі,
памяць зьдзекаў і сконаў
не пасьпеў шчэ аплесьці зялёны дым
дзеразы ды чабору...
Гасьцінцамі дзесьці
ўсё цягаўся у зброі,
бяз зброі народ...
Не, ня ласваў няўсьцішнага сьвету,
ня песьціў
дзевяцьсот і дваццаты, зацяты, год.
Дні міналі ступою, пад гуд малатарняў,
стукат пранікаў,
хрумст капусьцяных лістоў...
Выбраў з маткай Паўлюк бабім летам
прыпарным
бульбу,
ніву засеяў...
Па рэбрах платоў
пайшлі польку-трасуху выскакваць сарокі,
часта-густа скідаючы збан ці стаўбун...
І, ззалеўшы сядзець над вадой,
незнарокам,
сям-там восеці люлькі пабралі ў губу...
А у Слуцку на рынку насыпала шчодра,
ўдосыць восень багацьця —
любуйся, купляй!
Хай шэсьць год дратаваная ботамі гордаў,
шчэ радзіла, сваім на спажыву, зямля.
Пад мурком,
ластаўчынай нямоўчнаю стайкай
маладзіцы паселі вянком на зямлі.
Бела ў золаце сечкі паблысквалі яйкі,
ў сінім кужлі сыры спачывалі,
цьвілі
зырка макам чырвоным і вусны й пацёркі
журавін ды брушніцаў у лубках,
грыбоў
белагрудых вянкі тхнулі соладка й горка
мохам, шыльнікам...
шчырых дзяцячых зубоў
не маглі прычакацца гарэхі...
А побач,
за шнурком маладзіц,
быццам сена стагі!
на балоце зрудзелым,
паселі, спад лобу
пазіраючы,
знахаркі — бабы. Багі
хай іх знаюць, калі
столькі зёл ды карэньняў
насушылі яны: нам, палын, дзівасіл,
бэз, крушына, —
ўсё бранае пільна, старэнна
у сівым гушчары, ў залатым каласьсі.
За бабулямі —
ў тон з чыстым, звонкім таварам,
языкамі званілі ўзапар ганчары.
Іх паслухаць,
дык гэткіх макотраў, паджарых
гладышоў, гэткіх місаў —
ня мелі й цары!
Шчэ далей — бандары, груды ночваў ды
дзежак,
лес густы аглабель,
грываў конскіх,
калёс...
А нарэшце —
званьніц шылаватыя вежы
і нябёс засянелых расьсінены плёс.
Прыпазьніліся маці з Паўлом.
Давялося
абы дзе ўціснуць кошык брушніцаў. Глядзець
Павал рынку пайшоў.
Як жнівамі калосься,
назьбіралася ў Слуцку на рынку людзей!
Абмінаючы кошыкі, місы, кадушкі,
праціскацца ўзяў Павал туды,
пад муры,
дзе над натаўпам сьвіткаў і наміткаў,
гушкаў
вецер сьпеў,
як сам лернік ізь лерай, стары:
«А ў нядзе-е-льку раненька,
ўзыйшло со-о-нца хмарненька,
ўзыйшло сонейка над борам,
па над Селецкім таборам.
А ў таборы трубы граюць,
на нараду заклікаюць.
Сталі рады адбываці,
адкуль Воршы здабываці»...
Ды ці леры, ці песьні сьцягацца із гулам
маладых галасоў слуцкіх местаў і сёл?
Завярнуў да вазоў маладзён,
прачула
пах вітаючы яблык, саломы і кол...
Аж, ужо ля паўдзён,
як, Паўло й ня прыкмеціў,
шчыра зь дзядзькам таргуючы ў жыда брусок,
белым птахам
аднеткуль з асеньняга вецьця
сплыў на мур белакрылы адозвы лісток.
«Дзеці Случчыны!»
гэтак наверсе стаяла,
а нарэшце —
«Усе родны край бараніць!»
І ў імгненьне лынула людзкая навала
расплятаць чорных літараў дробную віць.
Хай птушына адна на муры бялела, —
паляцела,
як белых гусей ключы
паўз вазы, паўз галовы й муры,
паўз аселіц
цішыню й пустку,
сэрцамі трасучы.
Маладосьцяй усё налілося...
Коні
стоцьма вушы наставілі,
леры басы
загулі із нячутаю моцай,
з гоняў
рэзвы вецер прыбег,
пазырчэлі лясы...
А тады —
ўсхваляваўся ўвесь рынак морам,
як той прысак спад попелу,
ўспыхнулі ўраз
сто гамонак — агнішчаў,
здалося — гавора
дробна, тонка нат звонкіх збаноў гара!
Стаў Паўлюк, быццам з сэрца выймаючы
штосьці.
А тады,
над брушніцамі,
«мама», сказаў,
«Я пайду... Запішуся... Ці-ж зноў будуць
госьці
няскліканыя,
нас, як гарох той лузаць?»
Не пярэчыла маці Паўлу анічога,
не заплакала,
як па бацьку, калісь.
Зьвечарэла адно ўсё ўваччу ёй,
дык логам,
не прадаўшы брушніцаў,
дамоў пайшлі.
Аглядаліся пільна:
паілі карову,
разьбіваючы звонкі ў карыце лядок,
сечку рэзалі, цэбрам насілі палову, —
наўпрыцям —
і прыпоўз скульсь вужакаю змрок.
Хоцькі, не —
давялося хавацца у хату.
Ціха ў хаце,
сасновай труне,
было.
Моўчкі тупала маці у сенцах,
латаў
моўчкі нейкі хамут пры вакне Паўло.
Спаць пакладіся рана,
ды доўга чамусьці
Бай у ботах чырвоных іх вокны мінаў.
Зноў агонь запалілі, сьцюдзёную вусьціш
па кутох разганяючы...
Так, да відна
блізу шыбу лізалі
знадворку — вечар,
а ад хаты — газьніца,
суседзям на зьдзіў.
Аж,
да печы прыціснуўшы сьцерплыя плечы,
маці ціха прамовіла ў цемру:
«Ідзі»...

**(другая частка — працяг і канец — будуць зьмешчаныя ў наступным нумары)**

**Мікола Куліковіч**

## Мастацтва БССР на парозе пятага дзесяцігодзьдзя

Згодна савецкай тэрміналёгіі савецкае жыцьцё й дзейнасьць урачыста «ўступілі ў пятае дзесяцігодзьдзе» — пры чым асноўную ролю ў гэтым уступе адыграў мінулы 1957 год, азначаны як час «новага нябачанага ўздыму ўва ўсіх галінах савецкага жыцьця, у тым ліку і ў галіне культуры й мастацтва.

Паказаць наколькі гэтыя сьцьверджаньні адказваюць запраўднасьці — зьяўляецца тэмаю дадзенага артыкулу, які бярэ за аснову разгляд становішча мастацтваў БССР (драматургію, тэатр, музыка, выяўленчае мастацтва й кіно) на працягу юбілейнага 1957 году й яго найгалоўнейшых адрэзкаў, ды на пачатку 1958 г. — як паказьнікаў уступу ў тое «пятае дзесяцігодзьдзе».

### 1. Першы кантрольны агляд

Сакавік і красавік 1957 году былі даволі інтэнсыўным часам у жыцьці мастацтва БССР. Тут адбыліся: 3-ці пленум Саюзу беларускіх пісьменьнікаў; усесаюзны зьезд мастакоў; усесаюзны зьезд кампазытараў; міністэрства культуры БССР выступіла ў друку із справаздачаю; арганізавалі рэспубліканскія конкурсы на лепшую п'есу й плякат; адбыліся рэспубліканская й абласная нарады; прэса шырока асьвятляла падрыхтоўку ўсіх мастацтваў БССР да юбілею.

Усюды можна было заўважыць імкненьне паважна пракантраляваць кажны асяродак мастацтва, накіраваць яго ў патрэбны бок.

Калі ўзяць галіну савецкай беларускай драматургіі й тэатру, дык старшыня Саюзу пісьменьнікаў БССР (П. Броўка) у сваёй справаздачы на 3 пленуме, у сакавіку, заявіў, што хаця сьпіс п'есаў беларускіх тэатраў павялічваецца, аднак:

»На вялікі жаль, гэтыя п'есы істотнага кроку ў разьвіцьці нашай драматургіі не зрабілі... Драматургі недастакова глыбака пранікі ў жыцьцё, мала папрацавалі над сюжэтамі сваіх п'ес і над мовай сваіх герояў... Беларускія драматургі мала пішуць аб рабочай клясе, аб савецкай маралі. Недастаткова працуюць яны яшчэ над пошукамі новых форм, над тым, каб мова герояў п'ес была індывідуальнай, багатай... [1]

У красавіку Міністар Культуры БССР (Кісялёў) пісаў, што «беларуская драматургія значна адстае» ды што «такое становішча адмоўна адбіваецца на разьвіцьці нацыянальнага тэатральнага мастацтва». [2]

Міністар ставіў заданьне пісьменьнікам і драматургам стварыць новыя творы ў беларускай драматургіі да 40-годзьдзя савецкай улады. [3] З такога становішча кіраўніцтва прадбачала выйсьці пры дапамозе «сацыялістычных заказаў» вядучым аўтарам і арганізацыям рэспубліканскага конкурсу на лепшую п'есу.

Найбольшую надзею пакладалі на замоўленыя п'есы «Людзі і д'яблы» К. Крапівы (на тэму партызанскага руху ў вапошнюю вайну) і «Сьвятло з Усходу» П. Глебкі (аб змаганьні бальшавікоў за ўладу ў 1917-18 г.).

Конкурсам спадзяваліся прыцягнуць шырокія колы, як прафэсіяналаў, гэтак і аматараў, каб адсюль адабраць што вартаснае для тэатральных пастановак. Як убачым далей, абодвы гэтыя мерапрыемствы не далі жаданых вынікаў.

Тымчасам палажэньне савецкай драматургіі наагул і беларускай у прыватнасьці было ў той час няцікавым. Аб творчым жыцьці тэатраў БССР мы даведваемся із справаздачы Міністэрства Культуры, у якой чытаем:

«У калектывы (тэатральныя — М. К.) пранікаюць малазначныя, шэрыя п'есы, у выніку зьяўляюцца слабыя, «прахадныя» спэктаклі, якія ня прыносяць творчай радасьці акторам і не карыстаюцца посьпехам у глядачоў. Не пазбавіліся нашы тэатры творчай шэрасьці й інэртнасьці думкі, наглядаецца нежаданьне, а часам і няўменьне глыбока раскрыць аўтарскі матар'ял, закладзены ў драматычным творы. Мы многа гаварылі аб творчай сьмеласьці, аднак сярод пастановак гэтага году мала запраўды арыгінальных і сьмелых сцэнічным выражэньнем. Многія нашы калектывы пазбаўлены творчай сваесаблівасьці... [4]

З выказваньняў адказных працаўнікоў тэатраў БССР выходзіць, што савецкая драматургія й тэатры заключаны ў такую сыстэму, зь якой, проста, няма выхаду. У разгляданы намі пэрыяд у рэспубліканскай прэсе зьяўляецца цікавы артыкул аднаго зь беларускіх рэжысэраў, які так гаворыць аб савецкай п'есе:

«У кажнай зь іх ёсьць паважныя мастацкія недахопы. Добрая трaціна дзеючых асоб у іх проста ня мае ніякіх характараў і рэшысэрам і акторам доводзіцца выдумоўваць і прыдумваць, дакладней сказаць, ствараць хоць якую-небудзь уяўнасьць жывога чалавечага характару... Мова такіх «схэм» бледная й нявыразная».[5]

Але, такія п'есы тэатры ўсёткі **мусяць** ставіць, «бо няма іншага выхаду». [6]

Усё вышэй пададзенае тычыцца ў той ці іншай меры й двух вядучых тэатраў БССР — імы Я. Купалы й імы Я. Коласа. І тут дэклярацыі перавышалі рэальнасьць. Асабліва гэта можна наглядаць на прыкладзе тэатру ймя Я. Коласа, які выступіў у той час у друку із шматабяцаючай заявай аб падрыхтоўцы да юбілею, прыводзіў разгорнуты плян узмацненьня творчай працы, запрашаючы й заклікаючы ўсе іншыя тэатры рэспублікі да вялікіх чынаў[7]. Як ізноў-жа давядзецца ўбачыць далей, з усяго гэтага амаль што нічога ня зьдзейсьнілася.

Аб становішчы музычнага мастацтва БССР у дадзены адрэзак часу, у першую чаргу можа сьветчыць ход 2-га ўсесаюзнага зьезду кампазытараў (у сакавіку-красавіку), дзе а) беларуская кампазытарская дэлегацыя колькасьцяй была вель-

*Уладзімер Дудзіцкі*

# Андрэй Сякера

(навэля)

1

Андрэй ня чуў, калі зачыніліся за ім дзьверы. Апынуўшыся на мокрым цёмным ходніку, ступіў некалькі крокаў і, зябка здрыгануўшыся, спыніўся.

— Куда-ж гэта яно мне? — сударгава зашавяліліся ягоныя палушчаныя пазаўчарашнюю гарачкаю губы. — Сюды ці туды? . .

— Сюды, чалавеча, сюды . . . — зазьвінелі, здалося яму, у правым вуху выразныя словы нейчага спагадлівага жалю.

— Пэўне-ж сюды . . . — зашавяліліся ізноў губы. І Андрэй Сякера, сьціснуўшы рукою вузел клунку, кінуўся ў правы бок.

Ён ніколі ня быў у гэтым крывым няпрыемным завулку. Ён ня ведаў навет і самых Шыбеніцаў. Толькі адзін-аднюткі раз на сваім вяку быў ён у маладзіковую нядзелю на Шыбеніцкім кірмашы. . было тое даўно, тады, калі «багацей Сякера», як з пашаноўляй звалі іржаўцы Андрэя, прывозіў на продаж гладкую белабокую цялушку свае гадоўлі. І цяпер яму ўсёроўна, куды ісьці. Аднак кінуўся ў падказанае «сюды» — у правы бок, — думаючы барждзжэй мінуць шалёны будынак і апынуцца ў відне нейкага далёкага ліхтара, што, здавалася, міргае, хістаючыся густым мокрым ветрам, каб выбавіць чалавека з глухой цішыні завулку і паставіць яго худым валасатым тварам да ягонае роднае Іржаўкі.

Сьпяшаючыся, Андрэй пасьлізнуўся, хлюпнуўся левым каленам у лужыну, наткнуўшыся грудзьмі на адтапыраную з плоту штакеціну. Ад болю навіліся сьлёзы, рука выпусьціла клунак, і парывісты кастрычніцкі вецер выхапіў халодны скрыгат зубоў і прыглушыў яго шумам мокрых кляновых кронаў. Падняўся, прытуліўся плячыма да плоту, каб ізноў ня ўпасьці. Ад замараку Андрэю здалося, што нехта дужы ўхапіў яго вышэй локцяў з пачынае ззноў валачы ў той самы будынак, дзе ён пакінуў пярэднія зубы, кончык адбітага зубамі языка і пахварбаваную крывёю падзёртую зрэбную кашулю . . . Зь перапалоху крыкнуў і так моцна, што навет не пачуў, як аднекуль зблізу вырваўся раптам глухі страхотны голас: «Ходу няма. Назад!». І толькі тады, калі той самы голас уварваўся ў вушы другім наваратам, Андрэй, ачнуўшыся ад прывіду, апраўдаўся: «Мяне-ж пусьцілі дадому» . . . І пайшоў назад — у левы бок.

На бруку шыракаватай вуліцы, ледзь-ледзь асьветленай двума ліхтарамі, сакаталі колы трох калгасных хурманак. На першай Сякера пазнаў цукровыя буракі з бацьвіньнем, на другой — пукатыя мяшкі, накрытыя рабымі пасьцілкамі, а на трэцяй — самай даўгой і высокай — увязаныя вяраўчакамі карчакі на распал у печы. Андрэй здагадаўся, што людзі вязуць усё гэта на продаж і не абы-дзе, а на Шыбеніцкім рынку. Гэтак ён ўвазнаў дарогу і пайшоў, мінаючы хурманкі, на ўскрай Шыбеніцаў, адкуль пойдзе спачатку гасьцінцам, а потым — адтуль, дзе гасьцінец збочвае да спаленага летась вялікім пяруном калгасу «Круты ўздым» у старых багатых Стаўбуновічах — возьме нацянкі, пярэйдзе каля муроў сыраварні, разбуранае ў дваццаць дзевятым годзе, уброд раку і сьценкамі напрасткі ў Іржаўку.

Так думаў Андрэй Сякера, ідучы на ўскрай Шыбеніцаў.

2

Нешта каля трэціх пявуноў, калі Андрэй Сякера мінаў ужо Шыбеніцкія могілкі, ушчалася навальніца. Цяжка было ісьці. хворыя балючыя ногі ня трымалі на сабе спакутаванага ў турме цела. Маланка раз-пораз асьляпляла Андрэявы вочы ды ізноў ўпірала іх у густую чэрню ночы. Раскацістыя грымоты і ўзьюшаны вецер зьбівалі з тропу. На целе — ні сухога рубца. А дадому ісьці трэба, і трэба сьпяшацца. Бог сьвяты ведае, што там дома робіцца! Гэта-ж паўвеку, здаецца, прайшло, як Андрэй ня бычыў ні Тэклі, ні Аленкі. Заўтра-ж ёй васемнаццаты гадок. Тэкля зь вялікае радасьці будзе плакаць і выціраць хвартухом сьлёзы, а Аленка абдыме бацьку, выцалуе аброслыя шчокі і неадступіцца ні на часіну.

Радасныя думкі абарваліся сыгналам грузавіка. І сталася гэтак: Андрэй, стараючыся адступіцца набок, каб добра разьмінуцца з грузавіком, чамусьці апынуўся пасярэдзіне гасьцінца. Грузавік заскрыгатаў і спыніўся каля самага Андрэя. Раззлаваны шофэр пачаў крычаць і лаяць чалавека-разяваку, які стаіць, як той вадзянік, і ні варушыцца. Аднак, зірнуўшы на ягоныя лахманы, на падвязаныя матузамі ашчэраныя падэшвы выцертых ушчэнт бесхалявак, на невялікі чорны клунак, зжаліўся:

— Куды, бацька, паўзеш такою парою? Га?

— Дадому. У Іржаўку, — вінавата адказаў перапалоханы Андрэй Сякера, адступаючыся ўбок. Грымоты зьбілі мяне з панталыку . . . Можа-б падвёз, сынок, калі падарозе?

— Давай, вадзянік, у кузаў, — загадаў шофэр і падапхнуў Андрэя на бакавіцу грузавіка. Калі-ж той нечым забараніў, шофэр ужо зусім ветліва параіў:

— Глядзі-ж, бацька, не зваліся. Трымайся! Дарога выбоістая.

Грузавік заскрыпеў, заскрыгатаў і паімчаўся, абіваючы нечым мулкім балючыя Андрэявы бакі. А дождж — нябывалы, як з луба. Учасьціліся і маланкі. Пры іхным мокамгненным сьвятле Андрэй Сякера ўбачыў у кузаве грузавіка дзьве навюткія нехварбаваныя труны і пачуў нейкія нечалавечыя цягучыя стагноты. Андрэя апанаваў жудасны страх. Ён, ня могучы вымавіць ані слова, пачаў стукаць кулакамі ў шыбіну шофэравае кабіны. Шофэр, чуючы грымоты, пяруны і стукатню трунаў, не здаўмеўся, што гэта барабаніць ягоны тары «вадзянік» у кузаве. Пазьней, калі вярнуўся Андрэяў дар мовы, шофэр пачуў ягоны голас ратунку:

— Стань, чалавек Божы! Стань! Мерцьвякі твае варушацца! . . — крычаў Андрэй, малоцячы кулакамі ў шыбіну шофэравае кабіны.

Шофэра гэты енк узлаваў і ён хацеў высадзіць няўдзячнага баязьліўца, але-ж чалавек чалавекам і жаль чалавечы ў сэрцы сваім мае. Такім надвор'ем і сабакі крыўдзіць ня можна. Гэтак падумаў, памякчэўшы, шофэр, пачуўшы можа ўжо трэцім наваратам тое самае:

— Стань, чалавек Божы! Стань! Мерцьвякі твае варушацца! . .

Прыцішыўшы язду, шофэр прыклаў шчаку да шкла і, крычачы, ізноў парадзіў:

— Гэта шыбеніцкая цялушка . . . Шырпатрэбаўская . . . У другую труну хавайся, бацька! . . Хавайся!

Ляскочучы зубамі, Андрэй зьвіхнуў века труны, зь якой ня чутно было стогну, улез у яе, выпрастаўся і накрыўся тым самым векам.

Стомлены і целам і душою, Андрэй неўзабаве заснуў.

3

«. . . Пра тое, што чуў і бачыў, — нікому ані слова. Ні жонцы, ні родным ні блізкім.Андрэй Сякера» . . . «Стаў свой крыжык!» — стагнаў, у сьне Андрэй, хаваючы ў кішэні лахманоў пакінутыя ў Шыбеніцах пярэднія зубы, кавалачак адбітага зубамі пры катаваньні языка і пахварбаваную крывёю зрэбную кашулю . . . Стагнаў і сьцішыўся . . .

На світаньні грузавік спыніўся каля канторы «Іржаўскі шырпатрэб».

Века труны, у якой, расчыніўшы валасаты рот, соладка спаў Андрэй, ляжала збоку, каля левае бакавіцы грузавіка. Шофэр, будзячы, свайго «вадзяніка», адштурхнуўся ад нечаканага зьдзіўленьня назад:

— Дык гэта-ж ты . . . Наш Андрэй Сякера... Сьпяшайся-ж, чалавеча, дадому! . . Сьпяшайся! . .

4

На парозе хаты Андрэя Сякеру пераняла ягоная суседка Лукера. Узяла за рукі, сьціснула, зірнула ў вочы, заплакала і потым, апусьціўшы галаву, сказала:

— Чакала бедная Тэкля . . . і не дачакалася . . . Пухам ёй будзе наша сьвятая зямелька . . .

5

Папаўдні Андрэй Сякера адчыніў дзьверы «Іржаўскага шырпатрэбу» . . .

## Антыкамуністычная дэманстрацыя ў Нью Ёрку

З нагоды 21-ых угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, 7 лістапада, сёлета савецкая місія пры Задзіночаных Нацыях у Нью Ёрку ладзіла вялікае прыняцьце. Запрошаньні на прыняцьце былі разасланыя дыпляматычным прадстаўніком, місіям пры Задзіночаных Нацыях, прадстаўнікам прэсы й «выдатным» Амэрыканцам — сымпатыкам камунізму, у колькасьці 2.000.

З гэтай-жа самай нагоды, была зладжаная міжнацыянальная дэманстрацыя перад будынкам Савецкай Місіі, дзе адбывалася прыняцьце. Яна ладзілася зь ініцыятывы др. Фабіяна, старшыні Фэдэрацыі былых вугорскіх вязьняў, у якой узялі ўдзел Беларусы, пад кіраўніцтвам Управы Беларуска-Амўрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку, Украінцы, Вугорцы, а таксама й расейцы.

Дэманстрацыя пачалася а гадзіне 6-ай вечарам з хвілінай, калі пачалі зьбірацца госьці на прыняцьце й трывала аж да гадзіны дзявятай. Спачатку дэманстрацыя адбывалася спакойна з нацыянальнымі песьнямі й клічамі: «Хрушчоў — забойца!», «Свабода Вугоршчыне!», «Свабода Беларусі!», «Сьмерць камунізму» й г. д. Калі пачалі патроху адкрывацца вокны місіі — дэманстранты крычалі: «Вы пьяцё вугорскую кроў!», «Вы пьяцё кроў паняволеных народаў!» ды іншыя воклікі.

Цэлы час дэманстрацыя адбывалася на бакавой вуліцы (68th Street), бо паліцыя на франтовую (Park Avenue) не дапускала. Будынак Савецкай Місіі ахоўвала больш за 200 чалавек пяхотнай і коннай умундураванай паліцыі, ня лічачы тых, што былі ў цывільным, колькасьць якіх няведамая.

Перад 9-ай гадзінай, калі госьці пачалі выходзіць з будынку Савецкае Місіі —дэманстранты хацелі выйсьці на франтавую вуліцу й націснулі на кардон паліцыі, у выніку чаго вынікла завяруха паміж паліцыяй і дэманстрантамі. У рэзультаце было некалькі параненых па абыдвух бакох, паліцыя заарыштавала больш за дзясятак дэманстрантаў, а дэманстрацыя была спыненая.

**Прысутны**




**Удзельнікі беларускае штонядзельнае радыёвае праграмы ў Нью-Ёрку (гл. «Зь беларускага жыцьця»). Зьлева на-права: вучаніцы беларускае школы ў Нью-Брансвіку Аня Кажура й Аня Стома, настаўнік сп. Ф. Родзька й кіраўнік праграмы сп. Міхась Казьлякоўскі.**

Фота: Я. Пазьняк

мі недастатковай, уступіўшы месца навет малым савецкім нацыянальным рэспублікам (прыбалтыцкім, Армянскай, Грузінскай); б) творы беларускіх кампазытараў ня былі вызначаны на зьездаўскія творчыя агляды; в) ацэна творчай дзейнасьці абмежавалася толькі афіцыйнымі пералічваньнямі аўтараў і некаторых твораў[8].

Аб дзейнасьці адзінага на ўсю рэспубліку опэрнага тэатру БССР у пачатку красавіка выказаўся адзін з рэжысэраў гэтага тэатру (Ужэнцаў) які даводзіў, што:

> «Больш за ўсё нас павінен непакоіць той факт, што за выключэньнем нямногіх спэктакляў, мы амаль ня маем нацыянальнага опэрнага й балетнага рэпэртуару. Да саракавой гадавіны . . . тэатр вымушаны нанава паставіць опэру Цікоцкага «Міхась Падгорны», таму што **новых** арыгінальных твораў нашы кампазытары пакуль не стварылі. Няма ў нас і новага балету на сучасную тэму»[9].

«Беларусьфільм» прыйшоў ў юбілейны 1957 год, як адна з найбольш адсталых мастацкіх адзінак, незадавальняючая дзейнасьць якой адзначалася як кіраўніцтвам, гэтак і грамадзкасьцяй БССР. Некаторыя надзеі на палепшаньне становішча прынёс конкурс на новыя сцэнары, прысьвечаныя 40-годзьдзю савецкай улады. Здарылася, аднак, вельмі дзіўна: узнагароджаны 2-ой прэміяй сцэнар «Вогненыя вёстры» Фігуроўскага забраў сабе «Мосфільм», сцэнар таксама ўзнагароджаны 2-ой прэміяй «Пакуль б'ецца сэрца» Харкова забраў «Ленфільм», і «Беларусьфільму» застаўся толькі адзін сцэнар, што дастаў 3-ю прэмію — «Строгая жанчына» Блісьцінава, на сюжэт дзейнасьці старшыні сельсавету далёкай палескай вёскі, ды й той паводля пляну не пасьпяваў да кастрычніцкіх сьвятаў.[10]

Каб дакладней уявіць сабе справу, трэба дадаць, што «Беларусьфільм» паводля пляну мусіў ў 1957 годзе асвоіць да 7 новых мастацкіх фільмаў і выпусьціць іх на экраны, між тым у красавіку гэтага юбілейнага году студыя мела ўсяго толькі адзін фільм: «Палеская легенда».

Як можна бачыць з вышэй пададзенага, кантрольны агляд палажэньня мастацтваў БССР у сакавіку-красавіку 1957 году паказаў шмат адмоўных бакоў, чаго не хавалі й вышэйшыя кіраўнікі рэспублікі. Міністар культуры прызнаваўся:

> «Як відаць, падрыхтоўка да 40-годзьдзя Кастрычніка . . . пакуль яшчэ праходзіць у творчых калектывах незадавальняюча, і гэтая акалічнасьць ня можа не выклікаць паважнай трывогі . . . калі задавальняюцца нязначным, пасрэдным, калі імкнуцца малое выдаць за вялікае, бледнае за яркае, што, нажаль, нярэдка й здараецца . . . Хіба мала ў нас недапрацаваных твораў, павярхоўна напісаных п'ес, насьпех выпушчаных спектакляў, недапісаных карцін, цьмянай і аднастайнай музыкі, бездапаможных кінафільмаў?[11]

### 2. Напярэдадні сьвята

29 кастрычніка ў Менску адкрыўся сход актыву літаратуры й мастацтва Беларускай ССР, прысьвечаны абгаварэньню ведамага артыкулу Хрушчова «За цесную сувязь літаратуры й мастацтва з жыцьцём народу». На гэтым сходзе ў дакладах і дыскусіях высьвятлялася становішча мастацтва БССР, і гэта ў той час, калі да кастрычніцкага сьвята засталіся лічаныя дні.

Пра беларускую савецкую **драматургію** Міністар культуры БССР, выступаючы на сходзе із справаздачай, пасьля неабходных слоў аб посьпехах, змушаны быў ўсёткі заявіць, што:

> «беларуская драматургія адстае. Нашы драматургі за апошні час не стварылі значных твораў аб жыцьці беларускага народу. Вобраз нашага сучасьніка не знайшоў дастойнага й яркага адлюстраваньня, як у творах драматургіі, так і на сцэнах нашых тэатраў»[12]

Конкурс на лепшую п'есу, аб якім успаміналася вышэй, ішоў досыць марудна й толькі пад самы канец удалося актывізаваць колькасьць паступленьняў да 73 твораў, — лічба для рэспублікі зусім недастотковая. Тымчасам становішча з падрыхтоўкай да сьвята й да тэатральнага фэстывалю рабілася настолькі вострым, што міністэрства культуры паводля собскага прызнаньня раздавала тэатрам для працы гэтыя конкурсныя экспанаты ўжо тады, калі ніякіх яшчэ ацэнак іх ня было.[23]

Пастановай журы конкурсу 1-ая прэмія засталася ня прысуджанай, яна была занадта высокай для таго, што тут мелася. 2-ой прэміяй адзначаны былі дзьве п'есы: «У бітве вялікай» Маўзона на тэму здушэньня паўстаньня Сстракапытава гомельскімі бальшавікамі, і «Каб людзі ня журыліся» Макаёнка аб жыцьці сучаснай вёскі, аб новай маралі й этыцы. 3-ю прэмію атрымала п'еса «Ня верце цішыні» Шамякіна, аб пільнасьці савецкіх людзей і працоўных буднях хлебаробаў Палесься.

Тром п'есам былі прысуджаны гэтак званыя «заахвочвальныя» прэміі: «Млын на сініх вірох» Караткевіча, «Дні нашага нараджэньня» Мележа і «Год зьдзяйсьненьняў» Васілеўскага[14] і гэта ўвесь конкурс.

У **тэатральным жыцьці** БССР дадзенага адрэзку часу справы таксама не задавальнялі. Як падае Міністэрства культуры БССР:

> « . . . Нічым іншым, як зьніжэньнем мастацкай якасьці пастановак, можна вытлумачыць падзеньне цікавасьці насельніцтва гораду Берасьця й вобласьці да тэатру імя Ленінскага камсамолу Беларусі . . . Маючы невялікую колькасьць добрых пастановак, тэатр у апошні час выпускае слабыя сцэнічныя творы. Значна прынізіў творчую патрабавальнасьць калектыў Гродзенскага тэатру . . . Ніжэй сваіх творчых магчымасьцяў паставілі некаторыя спэктаклі тэатры імя Я. Купалы й Я. Коласа.[15]

У выніку «зьніжэньня мастацкай якасьці» ў вядучым тэатры БССР — імя Я. Купалы, перад юбілейнымі сьвятамі быў зьняты із становішча галоўнага рэжысэра шматгадовы працаўнік Рахленка й замененыпрысланым з Масквы рэжысэрам Пратасавам, ды наагул рэжысура была «ўзмоцнена» яшчэ некалькімі працаўнікамі РСФСР.

# Дзе няма ахвяраў - няма й перамогі

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

рам каля вёскі Вугля. 4-га кастрычніка саракатысячная армія Даўгарукага гэтаксама затрымалася табарам усяго ў колькіх вёрстах ад табару гэтмана Сапегі. На сьвітаньні 5-га кастрычніка, гэтман Сапега заатакаваў армію Даўгарукага. Бой быў вельмі цяжкі й цягнуўся аж да цямна. Уначы, карыстаючы зь цемры, армія Даўгарукава, якая мела вялікія страты ў людзях, адыйшла за муры Смаленску. Гэткім чынам, гэтман Літоўскі Павал Сапега загнаў быў абедзьве маскоўскія арміі за муры цьвярдыняў — Полацку й Смаленску. Пакульшто вайсковыя дзеяньні былі спыненыя й пачалася падрыхтоўка да новых баёвых сустрэчаў.

Тымчасам Магілеў, які гэтман Павал Сапега абмінуў, не прабуючы здабываць, дзеля ашчаднасьці сілаў і часу, вызваліўся сам. Там адбылося паўстаньне супраць Маскоўцаў. Апіс гэтага паўстаньня дайшоў да нас у запісах навочнага сьветкі тагачасных магілеўскіх падзеяў — ігумена Арэста. Яны зьмешчаныя ў «Археографическом сборнике документов, относящихся к истории Северозападной Руси», том 2-і пад загалоўкам «Записки Игумена Ореста». Вось выцяг з запіскаў, паданы бязь ніякіх зьменаў, адно ў перакладзе на сучасную беларускую мову:

— «Места Магілеў заваяванае было пад расейскую дзяржаву ў 1654 годзе. Дзеля ўтрыманьня яго назаўсёды пад уладай маскоўскай і дзеля абароны яго ад нападу Палякаў, у ім знаходзілася на працягу сямёх год маскоўскае войска, якое, стоячы на кватэрах, чыніла ўсялякія крыўды магілеўскім жыхарам, хоць на якія магілеўскія мяшчане і жаліліся няраз маскоўскім ваяводам Гарчакову і Паліектаву, што жылі тады ў Магілеве і, не атрымаўшы ад іх задаваленьня, выйшлі нарэшце зь цярплівасьці й зрабілі тайную змову зьнішчыць усё маскоўскае войска, што знаходзілася ў Магілеве. Дзеля выкананьня змовы яны вызначылі першага лютага 1661 году. Перад гэтай датай (паводля тайнага загаду магістрату (уначы патаемна магілеўскія жыхары павыймалі крамні із стрэльбаў маскоўскіх жаўнераў, што ў іх кватаравалі. Ураньні першага лютага магістрацкія ўрадаўцы й паважнейшыя грамадзяне, сабраўшыся ў ратушы із схаванымі пад вопраткаю мячамі, чакалі адпаведнага часу, будучы гатовыя пачаць паўстаньне.

«Маскоўскія жаўнеры, ня ведаючы аб гэтай змове, учыненай мяшчанамі на загубу іх, ходзячы па рынку грамадкамі, пачалі, як звычайна, сілком браць і хапаць пірагі, што прадаваліся. Мяшчане сумысьля моцна закрычэлі, будучы ў змове зь сябрамі магістрацкімі. На гэты крык бургомістар Пара-Леванові з катоўскім мечам выбег з ратушы, перахрысьціўшыся, крыкнуў: «Пара! Пара!» Раптам зазванілі вечавы звон на ратушы й на брацкай званьніцы на трывогу й бургомістар Пара-Левановіч ізь сябрамі першы пачаў перад ратушай на рынку катоўскім вялікім мечам секчы маскоўскіх жаўнераў. А мяшчане, пачуўшы звон на трывогу па ўсім горадзе, і па ўсіх дамох і вуліцах неспадзеўкі напаўшы, калолі, рэзалі бярдышамі, тапарамі й малатамі і чым хто мог забіваў рускіх салдат бяз усялякай літасьці. Гэты знаўмысны неспадзяваны напад на рускіх салдатаў, страшны крык і праліцьцё крыві адначасна быў зроблены ўва ўсім горадзе. І хоць гэты напад зроблены быў мяшчанамі неспядзявана, і супраць абяззброеных салдатаў, аднак яны, як людзі вайсковыя, пачалі на рынку браць перамогу над мяшчанамі. Раптам адзін зь мяшчан, бачачы небясьпеку, пабег і адчыніў турму, у якой трымалася вялікая колькасьць палонных Палякаў, якія, выбегшы з турмы, зацята біліся з рускімі салдатамі і тым большую дапамогу мяшчанам учынілі, так што на працягу некалькі гадзінаў зьнішчылі ўва ўсім горадзе ўсё маскоўскае войска, што ў ім было. У часе гэтае бітвы шмат ранена, некалькі забіта магілеўскіх мяшчанаў. Пасьля зьнішчэньня маскоўскага войска, мяшчане ваяводаў і ўрадаўцаў, закуўшы ў зялеза, пасадзілі ў турму. Пасьля пахаваньня забітага мяшчанамі маскоўскага войска, магістрацкія ўрадаўцы: войт Пётра Казановіч, бургомістар Язэп Пара-Левановіч, і Васіль Леашкевіч, ратманы Яўсей Кандратавіч Шышкевіч, Аляксандра Фількевіч і пісар ратушны Славуты Антон Іванавіч Клікуноў дзеля суправаджэньня й даставы ў Варшаву маскоўскіх двух ваяводаў Сямёна Савіча Гарчакова, Мацьвея Андрэевіча Паліектава й галавы стралецкага Сямёна Іванавіча Чэкіна ды іншых ахвіцэраў, закаваных у зялеза, самі асабіста выправілі з Магілева й шчасьліва даставілі. Хто найбольш адзначыўся ў паўстаньні, атрымаў шляхоцтва, а Левановіч да свайго прозьвішча дадаў «Пара», Пара-Левановіч. Магілеўскія грамадзяне былі звольненыя ад усіх гарадзкіх цяжараў, вайсковых пастояў, падводаў, падаткаў, і места Магілеў зраўнанае ўва ўсіх правох і прывілеях, свабодах, выгадах і вольнасьцях із сталічным літоўскім местам Вільняю.

Як бачым, апісаньне ігуменам Арэстам Магілеўскага паўстаньня гэткае дакладнае, што ніякія камэнтары да яго непатрэбныя. Тут можа быць толькі адна засьцярога, а гэта, як піша ігумен Арэст, то што з Магілеўскае турмы былі звольненыя палонныя Палякі, тады як цяжка сьцяміць, скуль там палонныя Палякі ўзяліся? Праўда, некаторая колькасьць Палякаў была прыдзеленая да войска гэтмана Сапегі дзеля падмацаваньня іх, але Сапега, як ужо прыгадвалася вышэй, пад Магілевам не змагаўся, а абмінуў яго, дык і ніхто зь яго войска ня мог трапіць у палон. Трэба думаць, што ігумен Арэст, як, зрэшты, шмат хто з праваслаўнага тагачаснага сьвятарства, усіх, хто змагаўся супраць Масквы, называлі Палякамі. Магілеўскія-ж мяшчане адвезьлі палоненых маскоўскіх ваяводаў пасьля пераможнага паўстаньня ў Варшаву да Яна Казімера таму, што Ян Казімер быў ня толькі каралём польскім, але й Вялікім Князем Літоўскім.

Швэдзкі кароль Карл Х-ы вайну з Польшчай прайграў. Дзякуючы нязвычайна геранчнай абароне польскай сьвятыні — Чэнстахоўскага манастыра, у польскім народзе пачаўся вялікі рэлігійна-нацыянальны ўздым, у выніку якога швэдзкая армія была з Польшчы выгнаная, а Карл Х-ы прымушаны падпісаць з Палякамі мір, некарысны для Швэцыі. Неўзабаве Карл Х-ы памёр. Памёр і вялікі гэтман Літоўскі Януш Радзівіл. І ўмова, пампісаная імі ў Кейданах, ніколі ня была зрэалізаваная.

У 1661 годзе вайна паміж Масквою й Рэчапаспалітай успалыхнула ўзноў. Ян Казімер, заняўшы бяз бою Гарадню, мінаючы Вільню, накіраваўся ў Даўгінава, дзе зьбіралася беларускае войска дзеля вызваленьня Полацку. Гэткім чынам стварыліся два крылы беларускага войска. Правае крыло пад камандай гэтмана Сапегі знаходзілася паміж Смаленскам і Магілевам, а левае крыло пад камандай сьпярша генэрала Юдыцкага, а пасьлей — палкоўніка Жаромскага, знаходзілася ў Даўгінаве. 11-га верасьня левае крыло падыйшло пад Полацак, Напярэймы яму з Полацку выйшла 40 тысяч маскоўскага войска на чале з князем Хаванскім. Варагі сустрэліся каля вёскі Кушлікі, на захад ад Полацку. Тут, пасьля вельмі даўгое й цяжкое бітвы, маскоўскае войска было цалкам разьбітае. Хаванскі з тысячай выцалелага войска ўцёк у Полацак. Сын Хаванскага быў узяты ў палон. Пасьля гэтае запраўды слаўнае перамогі, кароль Польскі й Вялікі Князь Літоўскі Ян Казімер пайшоў з часткаю войска вызваляць Вільню 2-га сьнежня пераможцы спад Полацку здабылі Вільню. Маскоўскі камандант места князь Мязецкі вызначаўся нязвычайнай жорсткасьцяй. Ён вынішчыў вялікую колькасьць віленскага жыхарства, падвешваючы зялезным крукам пад рэбры, аж падвешаныяканалі ў жудасных пакутах. Здаралася, што падвешаныя гэтак цяжарныя жанчыны радзілі, вісячы, дзяцей. Здабыўцы Вільні судзілі князя Мязецкага, як ваеннага злачынцу, і пакаралі сьмерцяй праз адсячэньне галавы.

На правым крыле беларускага войска сталіся тымчасам перамены. Гэтман Сапега адыйшоў ад камандваньня й ягонае месца заняў гэтман Міхал Пац. Гэта быў добры ваеньнік і здольны арганізатар. Сабраўшы на правым крыле ўсё беларускае войска, Пац выгнаў маскоўцаў з Раслаўлю й пайшоў на Бранск, дзе разьбіў Маскоўцаў і заняў Сеўск. Неўзабаве пад Сеўск прыбыў Ян Казімер, сьцягнуўшы сюды й польскае войска, якое здабывала на Ўкраіне горад Глухаў. Разам пад Сеўскам сабралася 40 тысяч дасьветчаных і вытрывалых вайскоўцаў. Аднак, паважнейшых ваенных дзеяньняў Ян Казімер не пачаў, і польскае войска адышло неўзабаве назад. Адыйшоў пад Крычаў і гэтман Пац. У Андрусаве недалёка Смаленску пачаліся мірныя перамовы. 30 студзеня 1667 году тут было падпісанае замірэньне на 13 з паловай год. Паводля яго мяжа між Маскоўшчынай і Рэчпаспалітай польска-беларускай прайходзіла па Дняпры. Смаленск і ўсходняя Смаленшчына адыйходзілі гэткім чынам да Масквы.

Цяжкая й даўгая вайна вельмі зьнішчыла Беларусь. Блізу ўсё большыя беларускія гарады былі разбураныя й спаленыя. Мястовае беларускае жыхарства, здольнае мяшчанства, рамесьнікі, мастакі і купецтва, былі перабітыя. Гэта быў вялізарны ўдар па Беларусі. Густа да вайны заселеныя месты, якія красавалі гандлем і рамёсламі, абярнуліся ў глухія, малыя мястэчкі. Вялікай стратай для Беларусі быў і адыход да Маскоўшчыны беларускіх усходніх, задняпроўскіх земляў.

Аднак, беларускі народ выйшаў з усіх ваенных дасьветчаньняў усё-ж пераможцам. Сталася-ж гэта адно дзякуючы вялізнай цярплівасьці, наважанасьці й ахвярнасьці ўсяго народу, як тых, што былі ў рэгулярным войску, гэтак і тых, што дзеля любасьці да роднага краю кінулі свае хаты й сем'і, каб стаць у рады паўстанцаў. І гэта — навука на будучыню. Бо — дзе няма ахвяраў, няма й перамогі.

Ф. Кушэль

# Князь Базыль Сьвятаполк-Мірскі ў Лёндане

Вечарам, 31-га кастрычніка г. г., прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Ангельшчыне спаткалі з радасьцяй на станцыі «Вікторыя» паважанага гасьця — князя Сьвятаполк-Мірскага. Ён, ня гледзячы на сваё калецтва, якое назаўсёды засталося для яго балючай памяткай савецкіх лягероў, і ня гледзячы на толькі што адбытае падарожжа, выглядаў бадзёра.

Адразу пры першай вячэры была абгаворана праграма яго дзеяньня ў Лёндане: паінфармаваць вольны сьвет аб савецкіх катаргах і зрабіць усё магчымае ў краіне Альбіёну для беларускае справы.

Быццам праграма невялікая, але колькі-ж розных прадбачаных і нікім неспадзяваных перашкодаў да ейнага ажыцьцяўленьня.

Тут мы пастараемся апісаць больш важныя мамэнты.

### Прыняцьце ў Мар'ян Гаўз

У нядзелю 2 лістапада князь Базыль разам із сваёй пляменьніцай прыбыў у Мар'ян Гаўз. Пры ўваходзе ў дом прывітаў яго хлебам і соляй рэктар Беларускай Каталіцкай Місіі ў Ангельшчыне й гаспадар дому. На Багаслужбе было шмат вернікаў як сваіх так і чужых. Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. П. Кінга. Пасьля казаньня ўсім было падана да ведама, якія й дзе прадбачваюцца **ў Лёндане** даклады Мірскага, былога савецкага лягерніка. Тут-жа ў Мар'ян Гаўз князь спаткаў некаторых знаёмых яшчэ з бацькаўшчыны, якія, падобна як і ён сам, мелі няшчасьце трапіць у Сібір і скаштаваць савецкага «раю».. Цяпер была нагода пагутарыць аб перажытым, якое ніхто й ніяк ня можа выкінуць із сваёй сьвядомасьці.

Тут-жа, за **абеднім сталом** пазнаёміліся з гасьцём блізу ўсе сябры Галоўнай Управы ЗБВБ.

### Спатканьне ў доме сп-ні Фіпс

5-га лістапада вечарам Ангельска-Беларускае Таварыства, старшынёй якога зьяўляецца леды Фіпс, наладзіла спатканьне выдатных асабістасьцяў брытыйскага грамадзтва з кн. Мірскім. Сярод прысутных былі Архіяпіскап Мат'ю із сваім братам, працаўнікі з БіБіСі, некалькі сяброў парляманту й шмат іншых дзеячоў і прыяцеляў Беларусаў. Спатканьне адбылося ў доме леды Фіпс. Ад Беларусаў, апрача сяброў Галоўнае Ўправы ЗБВБ, быў сп. інж. М. Абрамчык, Прэзыдэнт Рады БНР. Кн. Мірскі меў нагоду пазнаёміцца з рознымі людзьмі й паінфармаваць прысутных аб запраўдным савецкім жыцьці, асабліва як яно выглядае ў лягерох.

Пазнаёміў князя з прысутнымі сп. А. Гэрбэрт, заступнік старшыні Ангельска-Беларускага Таварыства.

### Даклад у Ньюман Цэнтры

7-га лістапада вечарам у цэнтры вядомай ангельскай арганізацыі інтэлектуалістых, кн. Мірскі прачытаў даклад на тэму «10 год у савецкіх канцэнтрацыйных лягерох». У залі было каля дзьвух сотняў слухачоў, сярод якіх былі прадстаўнікі з Ассосыэйшэн Прэс, ад дзьвюх ангельскіх каталіцкіх газэтаў, прадстаўнікі амаль усіх славянскіх народаў, карэспадэнт ад БіБіСі, а таксама ад швэдзкай і францускай газэтаў.

У сваім дакладзе прэлегент расказаў як яго схапіла НКВД у 1946 г. на вуліцы Вены; аб блізу двух-гадовых допытах і аб цяжкіх перажываньнях у 22 розных лягерох, куды перакідала яго «праславутае» НКВД.

Пры канцы дакладу князь затрымаўся крыху даўжэй над рэлігійным і нацыянальным пытаньнем ў Савецкім Саюзе.

Даклад трываў болей гадзіны, аднак нікому ня было сьпешна пакідаць залю. Прэлегент патрапіў з гумарам расказаць найбольш жудасныя гісторыі.

Пасьля дакладу шматлікія слухачы давалі прэлегенту розныя пытаньні, якія сьветчылі, што даклад зацікавіў прысутных на ім. Адным з вынікаў дакладу было запрошаньне князя наступнага дня даць інтэрв'ю ў тэлевізіі.

### Выступ у тэлевізіі й схвальшаваньне некаторых фактаў

Няма сумлеву, што тэлевізія зьяўляецца сяньня адным з найболей магутных сяродкаў у рэгістраваньні і распаўсюджваньні рознага роду праяваў людзкога жыцьця. Добра ацэньваюць гэта розныя фірмы, якія прыкладам у Англіі за адну хвіліну рэклямы свайго тавару плоцяць тысячу фунтаў.

Ня дзіва, што й князь згадзіўся даць інтэрв'ю, каб зь мільёнамі слухачоў падзяліцца сваімі ўспамінамі аб савецкіх канцэнтрацыйных лягерох.

Першым пытаньнем у студыі было: «Скуль вы, князь, і хто вас сюды запрасіў?»

«Я родам зь Беларусі, нядаўна выйшаў з савецкіх лягероў, а сюды прыбыў на запросіны Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі». — Такі адказ фільмова-гукавая стужка й зафіксавала. Праўда, працаўнікі тэлевізіі запыталі, што такое Беларусь і Беларусы. Хаця й ня вельмі яны арыентаваліся ў гісторыі й геаграфіі Беларусі, аднак згадзіліся канчаткова з тым, кім запраўды кн. Мірскі ёсьць і хто яго запрасіў.

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

---

Калі-ж сюды дадаць паважныя няўдачы ўсіх тэатраў БССР з падрыхтоўкаю новых п'есаў, нэрвовасьць і «штурмаўшчыну», дык ненармальнасьць тэатральнага становішча напярэдадні юбілею робіцца яшчэ больш відавочнай.

**Праца кампазытараў і тэатру опэры й балету** яшчэ да названага вышэй сходу паддавалася вострай і жорсткай крытыцы на адкрытых партыйных паседжаньнях тэатру (у кастрычніку).[16] Тое самае выявілася й на сходзе, дзе міністар культуры й кампазытар Алоўнікаў у сваіх справаздачах, а таксама выступаўшыя ў дыскусіі тэатральна-музычныя дзеячы Шырма, Александроўская, Цікоцкі, Лютаровіч і некаторыя іншыя крытыкавалі а) недастатковую творчую актыўнасьць беларускіх кампазытараў, іх нявысокі прафэсіяналізм, адставаньне музычнай формы ад зьместу; б) незадавальняючую якасьць беларускіх спэктакляў у опэрным тэатры, імкненьні пазьбегнуць беларускіх пастановак; в) незладжанасьць працы паміж аўтарамі й тэатрам, нізкі ўзровень творчай дысцыпліны.[17]

Праца **мастакоў** БССР аказалася таксама далёкай ад дэкларацыяў, і ў верасьні газэта «Літаратура і мастацтва» ў перадавіцы папярэджвае выяўленчых працаўнікоў, што:

> «для самаўсхваленьня й спачываньня ня ляўрах няма ніякай падставы. Тым больш, што з адкрыцьцём рэспубліканскай юбілейнай выстаўкі й з адпраўкай работ на ўсесаюзную выстаўку справа стаіць ня зусім добра».[10]

Як можна даведацца, гутарка тут ішла ня толькі аб парушэньні (недапушчальным, як заўважыла міністэрства) тэрмінаў прадстаўленьня працаў, але й аб значна больш глыбокіх рэчах: многія мастакі ідэйна былі далёкія ад юбілейных настрояў, асабліва пейсажыстыя, што захапляліся «адцягненай пэйзажнай лірыкай, якая зусім не адпавядае задачам сяньняшняга дня.[19]

На сходзе менскага актыву ў канцы кастрычніка, з дакладам «Аб стане і задачах выяўленчага мастацтва Беларусі» выступіў старшыня праўленьня Саюзу мастакоў БССР — Гаўрыленка. Пасьля звычайнага пераліку дасягненьняў, старшыня напомніў прысутным аб пастанове 3-га зьезду мастакоў у 1956 г., які паказаў недастатковую сувязь творчай практыкі мастакоў з жыцьцём народу... Што ў нас яшчэ мала твораў аб працоўнай дзейнасьці савецкіх людзей...»[20]

Аб **кінавытворчасьці** БССР міністар культуры ў сваёй апошняй справаздачы гаварыў:

> «Цяпер кінастудыя («Беларусьфільм» — М. К.) выпускае толькі 3 мастацкія кінакарціны ў год. Гэта бязумоўна недастаткова. Навет і ў тых умовах, у якіх кінастудыя працуе зараз, яна павінна выпускаць больш карцін» (фільмаў — М. К,).[21]

Справы тут былі аднак ня толькі ў колькасьці, але галоўнае ў тым, што вытворчасьць студыі «Беларусьфільм» за ўсе пасьляваенныя гады была вельмі нізкай якасьці й амаль што важны фільм трапляў у сьпіс няпоўнацэнных і адмоўных.

У студыі «Беларусьфільм» аказалася вельмі шмат паважных хваробаў і адна зь іх — праблема кінакадраў: рэжысэраў сцэнарыстых, актораў. Паколькі студыя ўвесь час свайго йснаваньня трымае арыентацыю на Маскву й Ленінград, пры маўклівай згодзе кіраўніцтва, дык і выходзіць, што вядучыя месцы ў ёй й абсаджваюцца кадрамі з гэтых гарадоў, а беларускія кадры выкарыстоўваюцца недастаткова.

Вельмі цікавую заўвагу аб вытворчасьці «Беларусьфільм» выказаў на сходзе актыву рэжысэр студыі Голуб. У ягоным перакананьні шлях кінамастацтва БССР **вызначалі фільмы, створаныя ў 20-х гадох**, такія, як «Лясная быль», «Кастусь Каліноўскі» й іншыя[22], але не зусім ня сучасная вытворчасьць.

Нам наўрад патрэбна камэнтаваць тут палажэньне мастацтва БССР у гэты другі адрэзак часу году; мы толькі хочам падчыркнуць, што гэтае зьявішча, схарактарызаванае трывожным самім кіраўніцтвам, асабліва прыкметна выступае ў «перадсьвяточныя» дні.

### 3. Сьвяточныя дні

Пры сьвяткаваньні 40-годзьдзя савецкай улады сталася тое «недапушчальнае», чаго баялася міністарства культуры яшчэ пры першым аглядзе местацтва — пайменна, што пляны савецкага кіраўніцтва будуць сарваныя й праваленыя, як з боку арганізацыйных мерапрыемстваў, гэтак і ў галінах творчых і рэпэртуарна-праграмных. Так і здарылася: а) мастацкую выстаўку беларускіх мастакоў, што рыхтавалася аж з 1955—1956 гг.; павінны былі перанесьці на пасьлясьвяточны час; б) тэатральныя й музычныя фэстывалі таксама былі адкладзены; в) вядучы тэатр рэспублікі — тэатр імя Я. Купалы — гэтак і ня здолеў паказаць на сьвята п'есу Крапівы «Людзі і д'яблы», над каторай працаваў увесь год і шырока рэклямаваў выступ спектаклю, як вузор творчага супрацоўніцтва аўтара й тэатру; г) дэкляраваны плян тэатру ім. Я. Коласа амаль што поўнасьцяй праваліўся: ня выйшаў спектакль новай п'есы беларускага драматурга Макаёнка («Каб людзі ня журыліся») на сучасную калгасную тэматыку, давялося адкласьці падрыхтоўку п'есы Я. Коласа «У пушчах Палесься», не ўдалася праца й над п'есай Глебкі «Сьвятло з Усходу»; д) тэатр опэры й балету наагул ня меў ніводнага новага арыгінальнага твору й навет, аднаўленьне старога балету «Князь-возера» Залатарова не магло адбыцца ў заплянаваны тэрмін на сьвяточныя дні.

Юбілейныя афішы тэатральна-канцэртных арганізацыяў БССР у перадсьвяточныя й сьвяточныя дні былі вельмі паказальнымі[23].

У канцы кастрычніка, калі ўжо ўсюды адчуваўся юбілейны настрой дадзены з гары, тэатр імя Я. Купалы паказвае п'есу «Лісіца й Вінаград» бразільскага аўтара жігэйрэдо, тэатр імя Я. Коласа — «Апошні прыпынак» Рэмарка, Філярмонія БССР ладзіць эстрадныя канцэрты замежных артыстых (Амэрыкі й Парагваю). У дні самога сьвята тэатр імя Я. Купалы ставіць п'есу расейскага драматурга Каплера «Навальнічны год», а тэатр опэры й балету, што знаходзіцца ў цэнтры ўвагі

# Факты й думкі (1)

**Весткі ў беларускай мове пра новага Папу — заглушаліся**

Тэлеграфнае агенства Ройтэрс (гл. «Нью Ёрк Таймс» ад 29 кастр. 58 г.) паведаміла, што няведамыя радыястанцыі заглушвалі перадачы Ватыканскага радыя пра выбар Папы ў некаторых мовах, асабліва ў чэскай, польскай, лятувіскай і **беларускай».**

**«Крышчэн Сайэнс Монітор» тлумачыць розьніцу паміж Беларусяй і Аляскай**

«Крышчэн Сайэнс Монітор» — адна з найбольш папулярных амэрыканскіх штодзённых газэтаў. Выдаецца ў Бастоне.

29 верасьня газэта ў сваім разьдзеле пытаньняў і адказаў зьмясьціла пытаньне сп. Ф. Кэмпа з Плэйнфілд, Н. Дж., чаму БССР і УССР маюць у ЗН сяброўства нароўні з СССР і ці гэта ня тое самае, як-бы Тэксас і Аляска (два амэрыканскія штаты) былі таксама поўнапраўнымі сябрамі ЗН?

Рэдакцыя газэты адказала:

«Прыняцьцё Ўкраіны й Беларусі ў ЗН — вынік кампрамісу, дасягнута паміж Рузвэльтам, Чэрчылем і Сталінам на ялцінскай канфэрэнцыі ў 1945 г., пасьля якое ЗША афіцыйна заявілі: «Калі зьбярэцца нарада ў справе сусьветнае арганізацыі, дэлегаты Задзіночанага Каралеўства й Задзіночаных Штатаў Амэрыкі падтрымаюць прапанову прыняць у сябры-заснавальнікі (to admit to original membership) дзьве савецкія сацыялістычныя рэспублікі, г. зн. Украіну й Беларусь».

«Савецкі Саюз, — піша далей «Крышчэн Сайэнс Монітор» прасіў прыняць свае ўсе 16 рэспублік, якія розьняцца ад амэрыканскіх штатаў тым, што яны розныя сваёй культураю й расай, хоць зьвязаныя разам цэнтральным урадам у Маскве».

**«Рэцэньзія»**

У Нью-Ёрку кімсьці выдаецца расейскі «независимый военно-политический орган» «Сигнал» (два друк. аркушы). Сёлета, на другім годзе выданьня, выдаўцы выціснулі трэйці з парадку нумар часапісу, у якім нейкі Мельнікаў «сыгналізуе» сваю рэцэньзію пра «бесполезную книгу о Белоруссии». Кнігай гэтай сталася нядаўна выдадзеная паангельску праца сп. Ант. Адамовіча «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры». Кніга выйшла ў Інстытуце Вывучэньня СССР.

Калі кніга рэцэнзуецца, яна не заўсёды чытаецца «ад дошкі да дошкі», але прынамся бярэцца ў рукі й студыюецца вокладка: прозьвішча аўтара, назоў, выдавец... Мельнікаў не здабыўся й на гэтую фатыгу. Ён піша, што кніжка «увидела свет благодаря усилиям двух организаций: Института Изысканий СССР и Института изучений СССР».

А найдасьціпней дык вось што ў «рэцэнзэнта» (падаю парасейску — гэтак **пікантней**:

«Между прочим, опозиция, проявившаяся в белорусской литературе, продиктована тем, о чем «националист-белорусс» Адамович предпочитает умалчивать, хотя в строфах безыскуссных белорусских поэтов это иногда прорывается. Их, нужно сказать, и не так-то много: Янка Купала, **Николай Вакар и др.»**

Што значыць эрудыцыя!

**Заміж контррэвалюцыі — п'янства**

Калі людзі на Захадзе галовяцца над Савецкім Саюзам, дык усё шукаюць нейкіх зьменаў. А шукаючы, сёе-тое знаходзіцца. Вось, прыкладам, сёлетні верасьнёўскі нумар месячнага часапісу «Молодой комуныст» (б. 83) паведаміў нам пра адну з гэткіх зьменаў:

«За выказаную мужнасьць і адвагу брыгадмільцаў (камсамольцы, што памагаюць міліцыі змагацца з п'яніцамі — Я. З.) узнагароджваюць ордэнамі й мэдалямі СССР. Колькі асобаў былі ўзнагароджаныя мэдалем «За баявыя заслугі»...

Калісьці змагаліся з контррэвалюцыяй і буржуазным нацыяналізмам, цяпер — з пянствам...

**Хрушчоўская рэформа школы**

Заміж дзесяцігодкі цяпер мае быць васьмігодка. Заміж рыхтавацца ў унівэрсытэт, трэба рыхтавацца «на вытворчасьць». Словам, як пісаў нядаўна верасьнёўскі нумар «Маладога камуніста», трэба «зьвязаць школу з вытворчасьцяй» ды пры гэтым «быць на ўзроўні сучасных ведаў».

На Беларусі міністэрства асьветы зацьвердзіла новы навучальны плян на **1958-59 год. Перавыконваць нормы,** паводля гэтага пляну, павінны й дзеці. Вось што піша на гэтую тэму «завуч» гомельскае школы № 10 Рэпеціла (гл. «Знамя юности», 9. 10. 58):

«Нашыя дзеці законна працуюць у школе па 6-8 гадзінаў штодня. Да гэтага, апрача лекцыяў, раз на тыдзень у кажнай клясе зь дзецьмі праводзяцца ўзгадавальныя гутаркі, клясныя сходы, піянерскія й камсамольскія справы. Апрача гэтага, дзеці яшчэ дома сядзяць над лекцыямі ад дзьвюх да чатырох гадзін штодня.... **Дзеці пачалі працаваць больш за сваіх бацькоў!»**

**Савецкі «патрыятызм» Беларусаў**

У цяперашніх савецкіх падручніках гісторыі Беларусі, па савецкіх газэтах і часапісах — усюды гаворыцца, што Беларусы надта-ж патрыятычна й уздымна змагаліся за «родную савецкую» ўладу. Ну, пэўна-ж! На гэта й існуюць цяпер савецкія падручнікі й прэса. Затое «Праўда» ў 1919 годзе пісала крыху інакш.

У «Праўдзе» ад 3 травеня 1919 году на балоне чацьвертай зьмешчаная адозва-заклік «К уроженцам **Литвы** и Белоруссии» ісьці ў чырвоную армію, падпісаная «Прадстанікам ураду Сацыялістычнае Савецкае Рэпублікі Літвы й Беларусі» К. Гедрысам. У звароце, між іншага, Беларусам выстаўленае гэткае пасьветчаньне савецкага «патрыятызму»:

«... есть люди, у которых хватает наглости и нахальства, обивая пороги советских учреждений, подавать, что вот, они-де, уроженцы Литви, или Белоруссии и т. д. и поэтому не должни призываться в Красную армию».

**Біяграфіі заміж успамінаў**

Біяграфія кажнага чалавека, у большай ці меншай меры, зьвязаная зь гісторыяй. «Б-на» ўжо колькі разоў прапанавала старэйшым сябром нашага грамадзтва публікаваць свае ўспаміны. У гэтым дачыненьні сёе-тое зроблена, але далёка ня ўсё й незашмат. Галоўная прычына, здаецца, у тым, што ўспаміны — параўнальна шырокае палатно. У людзей, што ня шмат мелі дачыненьня зь пісаньнем, перад панарамай мінулага разьбягаюцца думкі й расклейваюцца сказы. Куды лягчэй пісаць сваю біяграфію (не кажу аўтабіяграфію, бо людзі сьціплыя ня любяць пісаць пра «я»). Рэдакцыя «Б-ны» мусіла-б зьвярнуцца да пэўнае колькасьці асобаў не з прапановай пісаць успаміны, а з просьбай даць аўтабіяграфічныя матар,ялы й апублікаваць іх, гэтак, як публікуюцца ўсе на сьвеце біяграфіі. Зь біяграфіяў нашых старых дзеячоў складаецца біяграфія нацыянальная, якую цяпер напорыста хвальшуюць бальшавікі. Зьняпраўджаць гэты хвальш абавязак кажнага, хто жыў у грамадзе й хто, даючы свой жыцьцяпіс, дасьць праўдзівую частку гісторыі грамадзтва.

**Я. Запруднік**

# Цымбалы

«Урачыста панясем цымбалы многазвонныя,
Затопім жудзь вякоў у тоне струн,
І будуць слухаць нас з падпёртай галавою —
Усе народы нашую ігру»...

Вось гэтыя радкі зь вершу «Цымбалы» Хведара Ільляшэвіча, дзесятыя ўгодкі трагічнае сьмерці якога мы нядаўна адзначалі, прыгадаліся нам пасьля выступу — вельмі ўдалага — украінскае капэльлі бандурыстых у Мюнхэне (гл. папярэдні н-р). Як мы ўжо пісалі, выступ гэты навёў нас на адну думку. Можа гэтая думка засьмелая, можа — і напэўна — зьдзейсьніць яе ня так лёгка — але чаму ёю не падзяліцца з чытачамі? А ну-ж нехта яе прыйме да сэрца!

Зразумела, масавасьцяй эміграцыі мы раўнацца з Украінцамі ня можам. Ня можам мы раўнацца і колькасьцяй артыстычных — прафэсыйных і аматарскіх — сілаў. У нас бадай нельга знайсьці такіх, якія маглі-б прысьвяціцца выключна мастацтву. Не гаворачы ўжо аб зарабляньні на хлеб штодзённы, у нас кажны мусіць выконваць і пэўныя грамадзкія абавязкі. Але ня гледзячы на ўсё, мы ўсёткі не закідаем і рэпрэзэнтаваньня нашага народнага мастацтва, нашае песьні, музыкі. Хопіць толькі прыгадаць Беларускі Студэнцкі Ансамбль Песьні й Танцу ў Лювэне, які акрамя цэлага шэрагу выступаў у розных краінах, пакінуў па сабе трывалы сьлед — сэрыю грамафонных кружэлак. Тое самое можна сказаць і аб нашых хорах і танцавальных ансамблях у Амэрыцы. Аб іхнай ахвярнай працы ведама кажнаму з нас, і яе нельга недацэньваць.

Толькі адна рэч у нас закінутая. Тое, што для Украінцаў бандура, для нас — цымбалы. Хто ня прыгадвае мілагучнасьці гэтага інструманту, што стаўся нашым народным, хто ня прыгадвае нашых вясковых віртуозаў, аб якіх гаворыць Ільяшэвіч у сваім, бадай ці не найлепшым, вершы,

Зразумела, мы ня можам здабыцца на капэльлю цымбалістых, падобную да украінскіх бандурыстых. Гэтыя апошнія апынуліся на эміграцыі ледзь ня ў поўным складзе з бацькаўшчыны. Але ці нельга было-б зацікавіць гэтай справай некаторых з нашае моладзі. Ці, пад адпаведным прафэсыйным кіраўніцтвам, нельга было-б стварыць, скажам, трыё цымбалістых?

Аб гэтым марыў сьвятой памяці кампазытар Равенскі, будучы ўжо ў Бэльгіі. Тады мы знайшлі навет двух братоў, адзін зь якіх рабіў цымбалы, і абодва йгралі. Пазьней, калі не памыляемся, яны выехалі ў Канаду. У той час нашай небагатай студэнцкай грамадзе не ставала сродкаў дый часу, каб паважна гэтай справай заняцца.

Нашы эміграцыйныя асяродкі найбольш людныя цяпер у Амэрыцы. Там ёсьць таксама й прафэсыйныя сілы, якія маглі-б заняцца арганізацыяй і навукай маладых аматараў. Пэўна-ж, перш за ўсё трэба дастаць цымбалы, але пры добрай ахвоце гэтая перашкода не непераадольная. Хіба можна было-б дастаць з БССР і падручнікі-школы для цымбалістых, хоць яны там рэдкія. Галоўнае — ахвота. А як прыемна было-б пачуць за некалькі гадоў грамафонныя кружэлкі нашых цымбалістых, або й пачуць іх таксама на сцэне! Што думаюць аб гэтым чытачы? **Ул. Неманові**ч

# Князь Базыль Сьвятаполк — Мірскі ў Лёндане

(Заканчэньне з 6-ай бачыны)

Якое, аднак, было зьдзіўленьне й абурэньне ўсіх тых, хто знае кн. Базыля Мірскага, калі назаўтра ў тэлевізіі спікэр заявіў: «Тут маем гонар вітаць расейскага князя, якога запрасіла сюды вольная расейская арганізацыя...»

Адразу пасьля тэлевізійнае перадачы Галоўная Ўправа ЗБВБ ад імя кн. Мірскага й свайго вельмі энэргічна тэлефанічна запратэставала ў цэнтралі Незалежнай Телевізіі й зажадала ў найбліжэйшым часе скарыгаваць усё тое, што было нязгоднае з праўдай у сувязі з гэтым інтэрв'ю. Галоўная Ўправа атрымала таксама ўпаўнаважаньне ад кн. Мірскага прыняць усе легальныя меры, калі-б телевізійная інстытуцыя не паправіла свайго хвальшу. Усё гэта было сказана прадстаўнікамі Галоўнай Управы кіраўніцтву тэлевізіі. У спрэчцы з тэлевізіяй Беларусы засталіся самі. Нашы прыяцелі Ангельцы радзілі справу не завострываць, а некаторыя стараліся нас улюлюкаць «недаразуменьнем». «няведаньнем хто такія Беларусы», ды й наагул «малаважнасьцяй» інцыдэнту.

10. 11. 58 спаўдня кіраўніцтва тэлевізіі паведаміла Ўправу ЗБВБ, што згаджаецца скарыгаваць зробленую памылку ўва ўсіх бюлетэнях і ў найбліжэйшай вячэрняй перадачы, калі бываюць г. зв. весткі. Заставалася толькі супольна ўзгодзіць форму карэкты. Усё гэта было зроблена й вечарам у тым самым часе, калі кн. Мірскі меў выступ папярэдняга дня, той самы спікэр заявіў: «Папраўка да ўчарашняй перадачы з князем Мірскім. Ён ня ёсьць Расеец, а Беларус. У Вялікабрытанію запрасіла яго не расейская, а беларуская вольная арганізацыя».

Камусьці вельмі хацелася кн. Базыля Сьвятаполк-Мірскага паказаць як Расейца, а таму й ледзь ня судовая справа зь Незалежнай Тэлевізіяй. І спытаўбы хто: пашто ўсё гэта і ці не далася яшчэ ў знакі «матушка» Расея англамоўным народам? Ці-ж ня досыць знакаў на зямлі й на небе, якія паказваюць, па чыім баку павінна быць сяньня Вялікая Брытанія: Беларусі, Украіны, Грузіі... ці Расеі?

**Даклады й прыняцьце ў Беларускім Доме ў Лёндане**

9 лістапада ў нядзелю вечарам была склікана зборка сяброў Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ, на якую прыйшлі таксама й іншыя суродзічы, якія з тых ці іншых прычынаў не належаць да ЗБВБ. Зборка была нязвычайнай у нашых эміграцыйных умовах: прыбылі на яе сп. інж. М. Абрамчык, Прэзыдэнт Рады БНР і кн. Сьвятаполк-Мірскі. Старшыня сходкі вітаючы ўсіх між іншым сказаў:

— Беларускае адраджэньне пачалося ня сяньня. Шляхі, аднак, яго сяньня іншыя, чым былі ўчора. Мы расьцярушаны па ўсім сьвеце бачна дзеля таго, каб аб Беларусах даведаліся ўсе народы. У Вялікабрытанію гадоў дзесяць таму назад нас прыбыло некалькі тысяч бедных выгнанцаў. Сяньня мы тут маем свае арганізацыі й свае собскія дамы. Гэты скромны дом у Лёндане ёсьць нашай сымбалічнай бацькаўшчынай. Сяньня прыемна нам тут вітаць сыноў нашых вёсак, што выйшлі спад саламяных стрэх, згуртаваных з палітычным нашым кіраўніцтвам і з прадстаўніком нашае арыстакратыі. Зраўняла нас усіх доля выгнаньня й адзінае імкненьне: дзе-б мы ня былі — павінны будаваць Незалежную Беларусь!..

Наступна сп. Прэзыдэнт М. Абрамчык даў агляд апошніх дасягненьняў беларускай эміграцыі ўва ўсіх краінах сьвету. У сваю чаргу князь Мірскі горача прывітаў усіх прысутных, падзякаваў за запросіны яго ў Вялікабрытанію і ў далейшым даваў адказы на розныя пытаньні, што ставіліся яму.

Пасьля дакладаў і розных паясьненьняў сп. У. Бутрымовіч, старшыня ЗБВБ падзякаваў за прыбыцьцё ўсім прысутным, асабліва паважаным гасьцям з Парыжу й Мюнхэну. Распачалася скромная пачостка, да якой дайшлі нашыя песьні й скокі. Гэтак памятны вечар у Беларускім Доме ў Лёндане хутчэй праляцеў, чым усім нам магло здавацца.

**Ад'езд гасьцей.**

10. 11. 58 сп. Прэзыдэнт М. Абрамчык і князь Сьвятаполк-Мірскі пакінулі Лёндан. Ня гледзячы на ўсе перашкоды, была прароблена вялікая праца: князь Мірскі змог расказаць шматлікім асобам аб страшнай савецкай рэчаіснасьці. Сп. Абрамчык паінфармаваў аб жыцьці беларускай эміграцыі, а ЗБВБ зрабіла ўсё належнае, каб дастойна прыняць сваіх гасьцей і каб падрыхтаваць грунт да іхнай дзейнасьці.

**А. Дзедзінка**

---

партыйна-савецкіх арганізацыяў, абмяжоўваецца пастаноўкаю мяшаных, зборных канцэртаў, ды паказам старога клясычнага балету «Карсар». Беларуская кансэрваторыя на ўрачыстым сьвяточным паседжаньні дае канцэрт, дзе асноваю рэпэртуару зьяўляецца: «Дубінушка» Рымскага-Корсакава й «Эй ухнем» Глазунова. Ясна, што беларускія тэатральна-канцэртныя арганізацыі ня толькі могуць, але й павінны знаёміць жыхарства рэспублікі таксама й зь небеларускай драматургіяй, музыкай, малярствам. Аднак выстаўляць такі рэпэртуар у сьвяточныя дні можна толькі з двух прычынаў: або напеapprox ракор, як супраціў бальшавіцкаму сьвяту, або з прычыны поўнай слабасьці беларускага арыгінальнага мастацтва ў БССР. Прыведзеныя вышэй факты паказваюць хутчэй на апошнюю прычыну.

Нельга, зразумела, сказаць, што тэатральна-канцэртныя арганізацыі БССР у юбілейныя дні зусім ня выставілі рэпэртуару й праграмаў з твораў беларускіх аўтараў. Тыя-ж афішы даводзяць нам аб тэатральных пастаноўках п'есаў. «Сьвятло з Усходу» Глебкі, «Галоўная стаўка» Губарэвіча, «Год зьдзяйсьненьня» Васілеўскага, опэры «Міхась Падгорны» Цікоцкага й некаторых іншых былі заплянаваны й ажыцьцёўлены. Аднак перш чым гаварыць аб гэтым, як аб десягненьні, варта хаця-б коратка спыніцца на якасьці названых рэчаў і пастановак. «Сьвятло з Усходу» Глебкі (змаганьне за савецкую ўладу на беларускай тэрыторыі, ачольванае бальшавіком Мясьнікавам) вельмі мала мае агульнага зь беларускім народам, выводзіць чужых герояў. Паважныя недахопы аўтара ў хранікальнасьці, нявыразнасьці вобразаў, дзе, навет, і галоўны герой ня меў выразна азначанага характару; у дэкляратыўнасьці й статычнасьці разам зь вершавальнаю формаю, з патасным дэклямаваньнем дэкрэтаваных «праўдаў». Усё гэта стварыла для тэатру (імя Я. Коласа) неперамožныя цяжкасьці й спэктакль адразу трапіў у хранічную пераапрацоўку. Пасьля кажнага варыянту крытыка, навет юбілейная радзіла аўтару й тэатру падаць п'есу больш глыбокаму й паважнаму ўдасканаленьню[24].

П'еса Губарэвіча «Галоўная стаўка», таксама ня мела глыбейшых сувязяў зь беларускім асяродзьдзем, хаця дзея яе й праходзіць на тэрыторыі Беларусі (Магілёў). У ёй наглядаецца хранікальнасьць ды слабое распрацаваньне масавых сцэнаў.

Драматургу й тэатру (Расейскаму тэатру БССР) даюцца парады выправіць памылкі й недахопы, каб стварыць **«запраўды мастацкую»** (значыць яна ня ёсьць такой — М. К.) пастаноўку[25].

Аб юбілейнай п'есе «Год зьдзяйсьненьня» Васілеўскага (Гродзенскі тэатр) рэспубліканская крытыка пісала, што:

> «пэўная недасьветчанасьць драматурга выявілася ў шматтэмнасьці п'есы, у недастатковай дакладнасьці й сабранасьці яе кампазыцыі, у няўменьні часам адабраць неабходнае... Некаторыя вобразы ў п'есе засталіся недастаткова дакладна, глыбока растлумачанымі. Асобныя пэрсанажы робяць уражаньне эскізных замалёвак... П'есу нельга назваць дасканалай, закончанай, бо асобныя характары не распрацаваны ў ёй з ... мастацкай лёгікай»[26].

Апрача таго сюды трэба дадаць, што п'еса Васілеўскага, як і папярэднія, штучна павязана зь беларускасьцяй, бо гаворыць аб дзейнасьці бальшавіцкага падпольля, дзе ня было ў той час Беларусаў, і выводзіць героя — чужака Фрунзе.

Што да опэры «Міхась Падгорны» Цікоцкага, дык яна была выстаўлена тэатрам опэры й балету яшчэ ў 1940 годзе й тады-ж трапіла ў архіў, дзе й праляжала да часу юбілею. Мы ведаем ужо із словаў прадстаўніка мастацкага кіраўніцтва тэатру, што аднаўленьне гэтага забытага твору было вымушаным і праходзіла з прычыны **палітычнай,** але зусім не **мастацкай**[27]. Нічога іншага падыходзячага зь беларускіх рэчаў ў тэатры ня было й аднаўленьнем «Міхася Падгорнага» ён толькі лішні раз расьпісаўся ў сваёй бездапаможнасьці над стварэньнем нацыянальнага арыгінальнага рэпэртуару.

Пераказваючы крытычныя заўвагі рэспубліканскай прэсы, трэба папярэдзіць, што ўсе яны падаюцца ў мяккіх, затушаваных, спачувальных выразах, бо юбілейны час патрабаваў ад рэцэнзэнтаў больш пахвалаў, чымся запраўднай ацэны. Такім чынам запраўдная вартасьць юбілейнага рэпэртуару значна ніжэйшая за тое, што аб ім пішацца ў друку.

---

1 «Зьвязда», 21. 3. 1957.
2 «Літаратура і мастацтва», 20. 4. 1957 г.
3 Тамсама.
4 Тамсама.
5 «Літаратура і мастацтва», 13. 4. 1957 г.
6 Тамсама.
7 «Літаратура і мастацтва», 17. 4. 1957 г.
8 Аб гэтым у «Советской культуре» за канец сакавіка й пачатак красавіка 1957 г.
9 «Літаратура і мастацтва» 6. 4. 1957.
10 «Советская культура», 14. 11. 1957 г.
11 «Літаратура і мастацтва», 20. 4. 1957 г.
12 «Зьвязда», 30. 10. 1957 г.
13 Выпадак бяз прэцэдэнту, які добра паказвае якімі мэтадамі дасягваюцца савецкія посьпехі. «Літаратура і мастацтва», 20. 4. 1957 г.
14 Паводля дадзеных з газэты «Зьвязда», 22. 7. 1957 г.
15 «Зьвязда», 30. 10. 1957 г.
16 «Літаратура і мастацтва», 9. 10. 1957 г.
17 Аб гэтым у «Зьвязьдзе» за 30 і 31. 10. 1957. і ў «Літаратуры і мастацтва» за 2. 11. 1957 г.
18 «Літаратура і мастацтва», 28. 9. 1957 г.
19 Тамсама.
20 «Зьвязда», 30. 10. 1957 г.
21 «Літаратура і мастацтва», 2. 11. 1957 г.
22 «Зьвязда», 31. 10. 1957 г.
23 Паводля газэтаў «Зьвязда» і «Літаратура і мастацтва», канец кастрычніка і пачатак лістапада 1957 г.
24 Аб п'есе «Сьвятло з Усходу» зьмешчаны рэцэнзіі ў «Зьвязьдзе» за 22. 11. і 1. 12. 1957 г.
25 «Зьвязда», 20. 7. 1957 г.
26 «Літаратура і мастацтва», 7. 12. 1957 г.
27 «Літаратура і мастацтва», 6. 4. 1957 г.

(Працяг будзе)

